ГОД IX КАСТРЫЧНІК-СЬНЕЖАНЬ № 68-69
1955 г.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

ДВУМЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЕ РЭЛІГІЙНАЕ ДУМКІ



СЫНКАВІЦКАЯ ЦАРКВА З XV СТ.

**BOŽYM ŠLACHAM**
**(SUR LA VOIE DIVINE)**
BULLETIN RELIGIEUX BIELORUSSIEN BIMESTRIEL
Année IX. № 68-69. Octobre-Décembre 1955.
51, rue des Sts-Pères — PARIS · VIe

| Перадплата «Божым Шляхам» на 1956 г. | | |
|---|---|---|
| | За адзін нумар | На год |
| Францыя | 60 фр. | 350 фр. |
| Англія | 1 ш. 10 пэн. | 8 шыл. |
| Аргэнтына | 2 пэз. | 10 пэз. |
| Аўстралія | 2 ш. | 10 шыл. |
| З. Ш. А. | 20 цэн. | 1 дал. |
| Бэльгія | 8 б. фр. | 50 б. фр. |
| Данія | 1 д. кар. | 6 д. кар. |
| Канада | 20 цэн. | 1 дал. 20 ц. |
| Нямеччына | 80 пф. | 5 н. м. |
| Швэцыя | 1 ш. кар. | 6 ш. кар. |

Грошы слаць на адрасы:

У ФРАНЦЫІ:

Chèque Postale : Paris c. 6287 44
R. P. Horosko Leo. 95, rue de Sèvres. PARIS VI[e].

У АНГЛІІ:

Rev. dr. C. Sipovic. Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.

У АРГЭНТЫНЕ:

Asociacion Bielorusa en la Argentina C. Coronel Sayos 2877, Valentin Alsina, Buenos Aires.

У АЎСТРАЛІІ:

Mr. Jackievicz Donat, 33, Hope Str., Spotswood-Melbourne, Victoria.

У БЭЛЬГІІ:

M. l'Abbé Czerniaŭski François, Michelse 202. LOUVAIN.

У НЯМЕЧЧЫНЕ:

Dechant Michael Moskalik. Konto, N° 135259, P. Sch. A. Hannover.
in Goslar,

---

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БОЖЫМ ШЛЯХАМ»

апошнім часам прыслалі (сумы паданы ў францускіх франках): Булыга М. 500, В-ая К. 700, Данілевіч Б. 350, Каз-ая 1.000, Касак Я. 500, Лапушынскі Н. 350, Ліс С. 700, а. М. М. 700, а. М. К. 2.500, Найдзюк Ч. 680, Паляшук М. (група Вікторыя) 1.575, Пітушка Я. 700, Прытыцкі Б. 500, Раманоўскі Я. 700, Рашкевіч Ф. 400, Ро-ко Е. 500, др. С-скі С. 500, др. С-к М. 2.800, Тарарако С. 500, Цыбульскі Э. 500, Чарнэцкі Я. 760.

## ЗА 1955 Г. ПРЫСЛАНЫ Ў РЭДАКЦЫЮ Ў ФОРМЕ ВЫМЕНЫ НАСТУПНЫЯ ПЭРЫЁДЫКІ:

Аб'еднаньне Нр. Нр. 54-57.
Абежнік БІНІМ Нр. Нр. 4, 5.
Барацьба Нр Нр. 1-10.
Баявая Ускалось Нр. 5.
Бацькаўшчына Нр Нр. 1-52.
Беларус Нр. Нр. 51-53.
Беларускі голас Нр. Нр. 12-17.
Беларускі Зборнік Нр. Нр. 1, 2.
Бюлетэнь Згуртт. Бел. Мол. у Кл. Нр. 1.
Віці Нр. Нр 7, 8.
Дакуманты і факты Нр. Нр. 5-8.
Каляскі Нр. Нр. 26-37.
Лісток к Беларусам Нр. Нр. 6-8.
Летапіс Нр. 8.
Конадні Нр. 2.
Палесьсе Нр. 1.
Сіла веры Нр. 8.
Царкоўны сьветач Нр. 6.
Słova Božaje Nr. Nr. 1-55.
Znic Nr. Nr. 29-36.
Вістник Нр. Нр. 1-23.
Вісті Нр. Нр. 6-11.
Голос Христа Чоловіколюбця Нр. Нр. 78-81.
Канадійський Ранок Нр. Нр. 820-842.
Ми і світ Нр. Нр. 14-20.
Народне слово Нр. Нр. 1-46.
Наша Церква Нр. Нр. 1-12.
Українець-Час Нр Нр. 1-51.
Український Вістник Нр. Нр. 2, 4.
Український Збірник Нр. Нр. 1-3.
Український Голос Нр. Нр. 1-51.
Слідами малої святої Нр. Нр. 1-4.
Шлях Нр. Нр. 2-51.
Козак Нр. Нр. 25-27.
Наш приход Нр. Нр. 14, 15.
Россия и Вселенская Церковь Нр. Нр. 2-5.
L'Action Géorgienne Nr. Nr. 15-19.
Głos konfederacji Nr. Nr. 10-15.
Idziemy Nr. Nr. 35-38.
Nasza rodzina Nr. Nr. 1-10.
ABN Correspondence Nr. Nr. 1-11.
Katholischer Digest Nr. Nr. 1-12.
Knigu Lentyna Nr. Nr. 76-88.
Oriente Nr. Nr. 1-4.
Oriente Cristiano Nr. Nr. 1-12.
S. I. C. O. Nr. Nr. 174-184.

## КНІГІ, ПРЫСЛАНЫЯ СЁЛЕТА Ў РЭДАКЦЫЮ ДЛЯ ВОДЗЫВУ

**Міхась Кавыль,** Пад зорамі белымі. Нью Ёрк, 1954, стар. 72, f16°. Выдавецтва Злуч. Бел. Амэр. Дапамаговага Камітэту ў Нью Ёрку.

**Масей Сяднёў,** Ля ціхай брамы, Вершы. Нью Ёрк 1955, стар. 62, f. 8°. Выданьне Уладзімера Пелясы.

(Працяг на стар. 32).

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год IX. КАСТРЫЧНІК—СЬНЕЖАНЬ 1955 г. № 68-69.

# Духовае азбраеньне

Часта можна пачуць і прачытаць цьверджаньне, што жыцьцё чалавека ёсьць змаганьнем. Шмат глыбокае праўды мае гэты сказ. Ад калі чалавек стане на ўласныя ногі, дык ад тады і аж да магілы мусіць змагацца з вонкавымі і ўнутранымі цяжкасьцямі; змагацца за здабыцьцё сродкаў для пражыцьця, за апанаваньне сваіх слабасьцяў, за асягненьне сваіх ідэалаў, і перадусім за асягненьне свае апошняе мэты жыцьця. — Вось на гэтае апошняе змаганьне хочацца зьвярнуць увагу на гэтым мейсцы.

Апошяя мэты людзкога жыцьця надзвычайна велічная. І ўжо сваею веліччу яна вымагае ад чалавека адпаведнага гарту волі і вытрываласьці ў дзеяньні, безнастаннага імкненьня ўвысь, супраць чаго вельмі часта бунтуецца нашая ўласная натура, сапсаваная першародным грахом, слабая ў сваіх добрых пастановах і схільная да злога. Няраз яшчэ вялікія цяжкасьці ствараюць агульна-грамадзкія адносіны, стыхійныя няшчасьці, варожа настроеныя людзі, фальшывыя ідэалягічныя плыні, — ды ні ўсе цяжкасьці пералічыш! І весь перад кожным чалавекам, якія-б ён ня меў цяжкасьці і перашкоды на сваім жыцьцевым шляху і ў сваей натуры, ёсьць магчымасьць і абавязак асягнуць вечнае і бесканечнае шчасьце ў небе, і дзеля гэтага жыць паводля навукі Хрыста.

Няма ніякіх людзкіх мераў, каб азначыць адлегласьць людзкога шляху, які вядзе з туземнае даліны да нябесных вышыняў і няма слоў для выказаньня цярпеньня тых, што не асягаюць свае апошняе мэты. Перад кожным чалавекам ёсьць або неймаверна велічныя, або неймаверна жудасныя магчымасьці: ці ўзьняцца да нябесных вышыняў праведнасьці і сьвятасьці, ці аддаць сябе ў няволю граху і скаціцца ў бездань упадку і цярпеньня.

Ведама, што ніхто сабе сьведама цярпеньня не жадае, бо чалавеку ўроджанае імкненьне да дабра, да шчасьця; хто-ж не хацеў-бы жыць самым прыгожым духовым жыцьцём, адчуваць — што крочыць па шляху да вечнага шчасьця?! Але справа ў тым, што асягненьне апошняе мэты — вечнага нябеснага шчасьця — ня ёсьць справаю аднаго дня, ці тыдня, але справаю заўсёднага праведнага жыцьця, якое вымагае змаганьня з нязьлічанымі спакусамі, якія йдуць да чалавека нябачна і найчасьцей падступна пад прыкрыцьцём нейкага дабра ці прыемнасьці. І гэта яшчэ ня ўсё. Найважнейшым ёсьць тое, што апошняя мэта жыцьця чалавека знаходзіцца ў надпрыродным парадку, да якога чалавек сваімі прыроднымі сіламі ня мае ніякага доступу. Каб сягнуць у напрыродныя вышыні, неабходна мець ласку Божую.

Слова «ласка» кожнаму добра ведамае, але ў багаслоўскім значэньні ласкаю называецца той асаблівы дар, якім Бог уздымае разумнае сатварэньне да надпрыроднага стану. Той дар ёсьць духовы і нябачны, дзеля гэтага чалавек у стане ласкі вонкава ня розьніцца ад чалавека бяз ласкі; але ўнутрана, у духовым парадку між імі ёсьць істотная розьніца. Ня толькі сам стан, але і дзеяньне чалавека ў стане ласкі мае істотную розьніцу ў заслугоўваючай вартасьці адносна апошняе мэты жыцьця ў параўнаньні з дзеяньнем чалавека бяз ласкі. Некаторыя прыклады з прыродных зьявішчаў могуць крыху выясьніць гэтую розьніцу. Шмат цяпер на сьвеце ёсьць электрычных лямпачак, але сьвецяцца толькі тыя з іх, праз якія ідзе электрычны ток; нябачны ён, але мае аграмадную сілу. Нязьлічаныя кроплі расы летам штоўвечара ўкрываюць зямлю, але толькі тыя з іх зазьзяюць чароўнымі вясёлкавымі колерамі, на якія раніцаю ўпадуць праменьні сонца. Падобна, каб людзкая душа зазьзяла надпрыродным сьвятлом, патрэбна, каб яе асьвяціла ласка Божая.

Пакольні апошняя мэта людзкога жыцьця знаходзіцца ў надпрыродным сьвеце і паколькі да яе асягненьня неабходная ласка Божая, дык трэба, каб Бог яе шчодра раздаваў людзям. І Бог сапраўды так уладзіў магчымасьць асягненьня збаўленьня, што крыніцы асьвячаючае ласкі даступны кожнаму чалавеку. Бог шчодра і рознымі спосабамі раздае свае ласкі, але найбольш даступнаю і нявычарпальнаю крыніцаю ласкаў ёсьць Сьвятыя Тайны - Сакрамэнты.

Для яснасьці закранёнае тут справы Божае ласкі неабходна дадаць, што чалавек у стане ласкі мае магчымасьць асягнуць вечнае шчасьце, але гэта яшчэ не азначае, што яго асягне бяз ніякага высілку з свайго боку. У пупішках дрэваў

ёсьць шмат зародкаў кветак, але ня ўсе яны расьцьвітаюць, а расьцьвіўшы ня ўсе прыносяць плод. Каб дачакацца плоду з зародкаў кветак патрэбна сонечнае цяпло, пажыва і абарона ад шкоднікаў. Штосьці падобнае можна сказаць аб чалавеку ў стане ласкі: ён мае ўсё неабходнае да збаўленьня душы, але каб збаўленьне асягнуць яшчэ мусіць працаваць над сабою, унікаць грэшных упадкаў, здабываць цноты, выконваць Божыя прыказаньні ў штодзенным жыцьці і ўмерці ў стане асьвячаючае ласкі.

Пэўна-ж калі чалавек усьвядаміць сабе веліч апошняе мэты, тую радасьць і шчасьце, якую яна ў сабе мае, і калі даведаецца аб магчымасьці здабыцьця Божае ласкі, напэўна захоча пайсьці на шлях збаўленьня, але доўгавяковая практыка кажа, што пасьля двох тысяч гадоў, яшчэ большая палавіна насельніцтва зямное кулі ня прыняла навукі Хрыста, горш таго, шматлікія хрысьціяне, ўспрыняўшы Хрыстову навуку, жывуць зусім не па хрысьціянску. Справа ў тым, што якую-б багатую Божую ласку чалавек не атрымаў, ён з`ўсёды астаецца толькі чалавекам, бо ласка не перамяняе людзкое натуры. Аб гэтым добра ведае кожны з нас. Слабасьці і нагаг схільнасьці да злога астаюцца ў чалавеку ў большэй або меншэй ступені аж да сьмерці і таму іх неабходна заўсёды перамагаць сілаю свае свабоднае волі — значыць змагацца. Пры тым, чым вышэй чалавек узлымаецца ў дасканаласьці, змаганьне ня раз стае цяжэйшым. Дзеля гэтага такі волат духа і сьвятасьці, як апостал Павал адзываўся горкім словам аб сваіх прыродных нахілах: «Не разумею, што раблю, бо не раблю добрага, каторага хачу, але благое, каторага ня люблю» (Рым. VII, 15).

Ведаючы гэты факт, можна на прыкладзе жыцьця і дзейнасьці апостала Паўла прасачыць дзеяньне Божае ласкі і ролю прыродных сілаў у імкненьні да асягненьня апошняе мэты людзкога жыцьця. Да гэтага заахвочвае ўсіх сам апостал: «Дык малю вас: будзьце маімі пераймальнікамі, як я Хрыста» (1. Кар. IV, 16).

Калі ў ап. Паўла акрамя звычайных слабасьцяў цела зьявілася яшчэ прыкрая немач, праўдападобна падачка, дзеля якое ён заўсёды стараўся быць у таварыстве лекара ап. Лукі, дык ён прасіў Бога забраць ад сябе тую немач і атрымаў ад Бога адказ: «Даволі табе Мае ласкі, **бо сіла ў слабасьцях завяршаецца»** (2. Кар. XII, 9). Далейшае жыцьцё і дзейнасьць апостала даюць нязьлічаныя доказы глыбокае праўдзівасьці Божых слоў. Ап. Паўла ў ягонай апостальскай працы на кожным кроку чакала мноства цяжкасьцяў і небясьпекаў: «часта ў падарожжах, у небясьпеках на рэках, у небясьпеках ад разбойнікаў, у небясьпеках ад суродзічаў, у небясьпеках ад паганаў, у небясьпеках у гарадох, у небясьпеках у пустынях, у небясьпеках у моры, у небясьпеках між фальшывымі братамі, у працы і зьнемажэньні, часта ня сплючы, у голадзе і смазе, часта ў пастох, у холадзе і нагаце» (2. Кар. IX, 26-27. — Усюды ў гэтых небясьпеках апостал бачыў сваё людзкое бясьсільле, але адначасна бачыў так-жа Божую помач, з якою змог пераадолець усе тыя цяжкасьці і небясьпекі.

Як-жа прыходзіла Божая помач? Часам Божая помач цудоўна падтрымоўвала апостала, але найчасьцей яна суправаджала яго, быццам нейкае нябачнае, але магутнае аружжа. Таму ап. Павал заклікае вернікаў: «Браты, мацуйцеся ў Госпадзе і ў магутнасьці Яго; апранецеся ў аружжа Божае, каб здолелі ўстаяць супраць подступаў д'ябла; бо нашае змаганьне ня супраць крыві і цела, але супраць старшыняў і ўладаў, супраць валадароў цемры гэтага сьвету, супраць злых духаў у паднябесьсі Дзеля гэтага прымеце ўсё аружжа Божае, каб змаглі супрацьстаяць у ліхі дзень і ўва ўсім устаяць. Дык стойце, падперазаўшы вашыя паясьніцы праўдаю, і апрануўшыся у броню справядлівасьці, і абуўшы ногі ў гатовасьць абвяшчаць мір, а па-над усё ўзяўшы шчыт веры, якім зможаце затушыць усе распаленыя стрэлы крывадушніка. І шалом збаўленьня вазьмеце, і духовы меч, што ёсьць слова Божае» (Эфэз. VI. 10-17). На іншым мейсцы апостал заклікае карыстаць з Божае помачы не абы як, але браць яе аберуч, каб быць «у сіле Божай з аружжам праўды ў правай і левай руцэ» (2. Кар. VI, 7).

Ня цяжка бачыць, што духовае азбраеньне хрысьціяніна, якое ап. Павал вообразна апісвае быццам азбраеньне рымскага легіяніста, гатовага да бою, ёсьць ня што іншае, як усе хрысьціянскія цноты: і багаслоўскія і асноўныя, хоць паіменна называе толькі некаторыя з іх. Гэта ёсьць усё тое, што мы ў дачасным жыцьці забавязаны шукаць у першую чаргу, і калі будзем мець гэтае духовае «аружжа», Бог дасьць нам усё іншае патрэбнае для дачаснага жыцьця.

Ува ўсіх часох людзі наракалі на цяжкасьці жыцьця, але сучасныя жыцьцёвыя ўмовы, асабліва той посьпех, які пануе ўсюды, што не пакідае хвіліны вольнага часу, каб задумацца глыбей аб сваіх паводзінах; і радыё ды кіно, што палоняць людзкую фантазію, а так-жа іншыя дзейнікі, адзвычайваюць людзей, належна плянаваць сваё жыцьцё. Для большасьці адзіным жыцьцёвым правілам сёньня ёсьць: жыць, як набяжыць. А між тым мы пераживаем час, у якім больш чым калі завострываецца змаганьне за душу чалавека, весь-жа і за маю душу, і мы ніякім чынам ня можам стаяць збоку, прыглядацца абыякава да змаганьня. Кожны забавязаны рабіць усё, што ў яго сілах, каб ратаваць сваю душу, і таму кожнаму неабходна азброіцца духова.

Дзяржавы з бязбожным ладам маюць нязвычайна разбудаваныя ўстановы, якія займаюцца

прапагандаю. Яны робяць няімаверна вялікія выдаткі для свае прапаганды. І галоўнае вастрыё іхнае прапаганды накіравана на тое, каб у сваіх прыхільнікаў выклікаць веру ў праўдзівасьць безбожнага матэрыялістычнага сьветапогляду і справядлівасьць дзяржаўнага рэжыму, абаснаванага на ім, апраўдаць самыя лютыя злочыны, зробленыя ў імя таго рэжыму; а з другога боку падкапаць веру ў сваіх працаўнікаў — веруючых хрысьціян, пасеяць сумнівы ў іхных сэрцах, зламаць сілу супраціўленьня.

Такія паводзіны ворагаў хрысьціянства вельмі павучальныя і вымоўна сьведчаць аб тым, якое вялізарнае значэньне мае вера, рэлігійная вера. Зрэштаю агульная гісторыя і асабліва гісторыя Старога і Новага Запавету дае мноства прыкладаў, якія гэройскія і цудоўныя асягненьні здабывалі людзі з непахіснаю рэлігійнаю вераю. Апостал Павал у лісьце да жыдоў пералічае некаторыя надзвычайныя ўчынкі людзей з глыбокаю вераю, а потым дадае: «Ды-й што яшчэ скажу? Бо ня хопіць мне часу, каб апавядаць аб Гэдэоне, Вараку, Самсоне, Ефтаю, Давідзе, Самуіле, і аб прароках, якія вераю перамаглі царствы, чынілі праўду, атрымалі прыраченьні, загарадзілі пашчы львоў, утушылі сілу агня, уцяклі ад вастрыя мяча, крапчэлі ад слабасьці, сталіся моцнымі ў вайне, змусілі да ўцёкаў палкі чужых, атрымалі жонкі з уваскрасеньня сваіх мёртвых. Іншыя-ж былі замучаныя, не атрымаўшы вызваленьня, каб знайсьці лепшае ўваскрасеньне» (Жыд. XI, 32-35),

Коратка кажучы, і надпрыродныя і дачасныя меркаваньні павінны абудзіць у кожнага чалавека жаданьне здабыць хрысьціянскія цноты. Асабліва неабходна ў сучасны мамэнт займець непахісную веру. За ею ў сэрцы чалавека пачнуць прарастаць іншыя цноты, бо яны з сабою злучаныя. З веры выплывае надзея, а за ею любоў — хрысьціянская любоў Бога па-над усё, а бліжняга як самога сябе. Адначасна з гэтымі багаслоўскімі цнотамі павінны зьявіцца і асноўныя цноты: разважнасьць, справядлівасьць, стрыманасьць і мужнасьць.

Шмат хто хрысьціянскія цноты прыраўноўвае да прыгожых кветак. Гэтае параўнаньне часам выкарастоўваюць на тое, каб зацеміць, што гэтыя кветкі вельмі кволыя. Дзе лютуе мароз, там кветкі ня цьвітуць. Аднак людзі нават у часе лютых марозаў знайходзяць магчымасьць выгадаваць кветкі ў цяплярнях, тымбольш мы можам і павінны выгадаваць прыгожыя кветкі цнотаў у нашых сэрцах, дзеля гэтага аднак неабходна не адчыняць іх для лютых віхураў, ды захаваць у іх цяпло і сьвятло Божае ласкі.

Уканцы неабходна заўважыць, што здабыцьцё цнотаў — прыкладнае хрысьціянскае жыцьцё — ня ёсьць толькі асабістаю справаю, але ёсьць так-жа важнаю агульнаграмадзкаю справаю. Бо цноты ня толькі ўпрыгожваюць жыцьцё, але быццам райскія кветкі маюць такі духмяны водыр, які выклікае ў іншых жаданьне займець у сябе такую-ж духовую прыгажосьць. Калі для ўплываў розных палітычных партыяў і праграмаў людзі ўмудрыліся парабіць непраходныя граніцы і зялезныя заслоны, дык для ўплыву хрысьціянскіх цнотаў няма ніякіх граніцаў. Зразумела, што цноты маюць уплыў толькі тады, калі яны красуюць, але ніколі тады, калі толькі мадзеюць. Там-жа дзе вернікі нішчаць у сабе ўсе цноты, пашыраюцца варожыя для хрысьціянства дактрыны.

З часоў першых хрысьціян ведамы нязьлічаныя выпадкі, калі нават некаторыя мучыцелі, гледзячы на непахісную веру тых, каго мучылі, самі навярталіся на хрысьціянства. Натура чалавека і сёньня астаецца такою-ж, як яна была заўсёды. На іншым мейсцы чытач можа даведацца, як у нашых часох навярнуўся на каталіцызм с венкі афіцэр энкавэдыст, які быў глыбока ўзрушаны гэройскаю вераю айца ўладыкі Андрэя Цікоты.

Да ўсяго вышэйсказанага варта яшчэ дадаць, што хто сьведама не ўцякае ад лепшага пазнаньня Бога, дык часта сустрэне ў сваім жыцьці спэцыяльныя спанукі, каб абудзіць ў сабе шчырае жаданьне азброіцца як сьлед Божым аружжам цнотаў і карыстацца імі ў штодзенным жыцьці.

**а. Леў.**

---

# Сьвяты Аўрам Смаленскі

Спаміж велічных постацяў беларускага сярэднявечча асаблівую ўвагу зьвяртае на сябе сьвяты Аўрам Смаленскі. Аб ягоным жыцьці і дзейнасьці дайшоў да нас пераказ сьв. Яфрэма «Житіе и терпеніе преподобнаго отца нашего Авраамія, просветившагося в терпеніи мнозе, новаго чудотворца в святых града Смоленска». Напісаны гэты жыцьцяпіс у XIII в., але да нашых часоў дайшлі толькі копіі з XVI-XVII ст. аж у 36 розных сьпісках з невялікімі літаратурнымі перапрацоўкамі. Першапачаткава жыцьцяпіс быў напісаны смаленскаю беларускаю моваю і нават у сьпісках, зробленых у пазьнейшых расейскіх манастырох, захавалася шмат беларускіх слоў.

Паводля прынятых у XIII ст. узораў, сьв. Яфрэм ў сваім жыцьцяапісаньні робіць шмат ад-

хіленьняў для ўслаўленьня сьвятога, для павучальных разважаньняў, падае так-жа некалькі малітваў. Ёсьць у ім некалькі запазычэньняў з «жыціяў» іншых сьвятых, напрыклад з жыція сьв. Тэадозія Пячэрскага, сьв. Антонія і інш. У такіх запазычэньнях захоўваецца мова арыгіналаў — гэта значыць царкоўна-славянская, але дзе сьв. Яфрэм апасвае падзеі, якіх сам быў навочным сьведкам, як верны вучань сьв. Аўрама, там ня трымаецца ніякіх узораў і пераказвае ўсё бачанае жыва і з вялікаю сымпатыяю да свайго настаўніка.

«Жыціе», напісанае сьв. Яфрэмам мае вельмі вялікае значэньне для беларускага пісьменства і як літаратурны твор і як гістарычны дакумант з XIII ст. нажаль да гэтага часу яшчэ замала дасьледжаны.



Радзіўся сьв. Аўрам каля 1146 г. у «няпростай» сям'і. Ягоны бацька, чамусьці не названы паімені, служыў у смаленскага князя нейкім урадоўцам: «от князя чэсьць прыемля», быў чалавекам высока цнатлівым, памагаў ахвотна іншым у бядзе, карыстаўся агульнаю пашанай і любоўю. Маці называлася Марыя і праўдападобна была так-жа з баярскага роду. Бацькі ўжо мелі 12 дачок, але ніводнага сына і шчыра маліліся, каб мець хоць аднаго сына-насьледніка. Доўгі час іхнія малітвы ня былі выслуханыя, дык яны зьвярнуліся ў жаночы манастыр, каб у іх намераньні памаліліся манашкі. Праз некаторы час адна манашка бачыла сон, які прадвяшчаў, што іх малітва выслухана. У сям'і княжага ўрадоўца хутка радзіўся сын. На восьмы дзень пасьля нараджаньня яму было дана імя, а на 40-вы дзень адбылося хрышчэньне. Відаць аднак, што з часам ягонае сьвецкае імя забылася і жыцьцяпісец яго не ўспамінае.

З дзіцячых гадоў жыцьця сьв. Аўрама ведама толькі, што ён мала цікавіўся дзіцячымі гульнямі, затое ахвотна хінуўся да навукі і атрымаў добрую асьвету, так што мог чытаць у арыгінале творы грэцкіх айцоў Царквы і філёзафаў. Калі ён быў юнаком, бацькі плянавалі яму сужэнства, але ён рашуча адмовіўся ад жаніцтва. З выгляду быў вельмі прыгожы, «зьзяў красою, як кветка».

Па сьмерці бацькоў Аўраму асталося ў спадку вялікае багацьце, але ён, ідучы за прыкладам шматлікіх сьвятых, якіх жыцьці чытаў, раздаў сваё багацьце ўбогім, апрануўся ў бедную вопратку і сам стаўся падобным да убогіх, так што некаторыя яго лічылі юрадзівым.

Па некаторым часе ён тайна ўступіў у Багародзічны манастыр у Сельшчы 5 км. ад Смаленску, прыймаючы пры пастрыжэньні манашае імя Аўрам. Чаму ён прыймаў тайна манашае пастрыжэньне ў жыцьцяпісе ня кажацца, можна толькі дагадвацца, што мусілі быць нейкія перашкоды з боку родных.

У манастыры Аўрам вёў строгае аскетычнае жыцьцё; няраз маліўся цэлыя дні і ночы, часта шчыра пасьціў, ніколі не хадзіў на ніякія банкеты, нават калі на іх запрашаў сам князь. Такая строгасьць жыцьця бязумоўна мусіла адбіцца на яго здароўі і выглядзе. Яфрэм кажа, што сьв. Аўрам быў вельмі худы, так што «можна было перарахаваць усе ягоныя косьці», але затое ягонае аблічча зьзяла нейкаю асаблівай яснасьцю. Галава хутка стала лысаю, але барада ўвесь час аставалася чорнаю.

Багародзічны манастыр ў Сельшчы праўдападобна быў немалым культурным вогнішчам, бо ягоны ігумэн, як кажа сьв. Яфрэм, быў чалавекам немалое асьветы. Там Аўрам знайшоў адпаведныя магчымасьці для разгарненьня свае дзейнасьці. Ён пачаў зьбіраць творы айцоў Царквы, жыцьцяпісы сьвятых і кнігі агульнаасветнага зьместу. Некаторыя з іх ён перапісваў сам, некаторыя аддаваў да перапісваньня перапісчыкам, так што праз нейкі час манастырская бібліятэка значна ўзбагацілася. У гэтай дзейнасьці ігумэн манастыра спачатку спрыяў Аўраму і, бачучы ягоную вучонасьць, а перадусім дабрадзейнасьць, казаў прыняць сьвягарства. Аўрам паслушна прыняў сьвятарскія сьвячэньні і ад тады вёў яшчэ больш строгае жыцьцё і больш рупную навукова-асветную дзейнасьць.

Трэба ведаць, што Смаленск, як культурны цэнтр стаяў вельмі высока ўжо ад палавіны XII ст. Там ужо ў 1130 г. князь Расьціслаў Мсьціславіч (1127-1159) быў заснаваў грэка-лаціна-рускую школу. Наагул ён рабіў шмат стараньняў для падняцьця асьветы ў сваім княстве і, як кажа летапісец, «ня мог цярпець нявучонага духавенства». Умовы для разьвіцьця асьветы ў Смаленску былі вельмі спрыяючыя і таму ня дзіва, што між смаленскім духавенствам хутка зьявіліся такія высокаасьвечаныя людзі, як Клімэнт Смалятіч. Калі яго выбралі ў 1147 г. на кіеўскі мітрапалічы пасад, дык летапісец зазначыў, што «у Рускай зямлі яшчэ ня было такога кніжніка і філёзафа».

Нічога дзіўнага, што ў такім асяродзьдзі пачалі нуртаваць розныя багаслоўскія плыні. У другой палавіне XII ст. было зьявілася некалькі

экзэгэтычных кірункаў адносна разуменьня сьвятога Пісаньня, ў выніку чаго заіснавала ў Смаленску самабытная багаслоўская школа, да якое відавочна належаў так-жа сьв. Аўрам. Жыцьцяпісец між іншым кажа: «Бог даў яму ласку і самому належна разумець Сьвятое Пісаньне і іншых павучаць». У яго заўсёды было гатовае слова для адказу і тлумачэньня на ўсякае пытаньне. Пры тым ён так умеў прамовіць да людзей, што ўспрыймалі яго словы да сэрца.

Вучонасьць сьв. Аўрама стае шырока ведамаю і да яго ў манастыр усё больш пачынаюць прыходзіць людзі, шукаючы духовае пацехі. І ён заўсёды зьвяртаецца да іх з павучальным словам, а начамі моліцца за іх і ахвяроўвае свае пакутныя подзьвігі.

З надзвычайна вялікаю пабожнасьцю адносіўся сьв. Аўрам да Сьвятое Эўхарыстыі. Пасьля прыняцьця сьвятарства ён штодзенна адпраўляў Службу Божую, каб прычасьціцца самому і іншых заахвоціць да прычасьця. Пры багаслужэньнях ні ў чым не адступаў ад царкоўных прыпісаў, а Службу Божую адпраўляў, «як анёл Божы». Ад вернікаў вымагаў адпаведнае пашаны да сьвятыняў, асабліва строга забараняў гутаркі і шэпты падчас Службы Божае. Царкву стараўся прыбраць як мага прыгажэй, нават сам маляваў некаторыя іконы. Летапісец успамінае аб дзьвёх, што былі шырокаведамымі: адна аб страшным судзе, а другая аб паветраным выпрабаваньні пакутаў.

Розгалас аб сьвятым Аўраме пачаў выклікаць задрасьць у манахаў і сьвятароў. Ігумэн манастыра, які перш спрыяў Аўраму і нават пасылаў да яго людзей, што прыходзілі ў манастыр шукаць духовае пацехі, пачаў яму заздросьціць і рабіць няпрыемнасьці. Аднойчы ён паклікаў да сябе Аўрама і заявіў: «Вось увесь горад ты прыцягнуў да сябе і ганарышся пыхліва, што стаўся вучоным і настаўнікам лепшым за нас, але пакінь вучыць, я за цябе адказваю перад Богам». Але ня ў сіле было ігумэну забараніць вернікам прыходзіць да сьвятога. Забарона выклікала толькі замяшаньне і незадаволеньне ў наведвальнікаў манастыра. Разгневаны да крайнасьці ігумэн, зганьбіў сьв. Аўрама і выгнаў яго з манастыра, «як непатрэбнага рабе».

Тады Аўрам асяліўся ў невялікім манастыры сьв. Крыжа ў Смаленску і туды хлынулі наведвальнікі яшчэ больш чым перш у Селішча. Яму наведвальнікі няраз прыносілі шчодрыя дарункі. З іх ён ўпрыгожыў царкву, уладзіў манастыр, а рэшту раздаваў убогім і патрабуючым. На багаслужэньні ў царкве сьв. Крыжа заўсёды было поўна людзей, жадаючых паслухаць навукі сьв. Аўрама. Гэтая дзейнасьць зрадзіла страшэнную заздрасьць у гарадзкога духавенства. Яно пачало натраўліваць людзей супраць сьвятога. Пачалі пашыраць самыя недарэчныя плёткі супраць яго-нага жыцьця і навукі. Уканцы дамагліся ў князя і япіскапа суду.

У назначаны дзень амаль увесь горад высыпаў на вуліцы. Разагітаваныя натаўпы пагражалі жыцьцю сьв. Аўрама. Відаць, што сьв. Яфрэму глыбока запалі абразы таго суду і ён іх апісвае з сардэчным спачуваньнем да свайго настаўніка: «Увесь горад быў супраць яго. Сабраліся ўсе ад малога да вялікага; адны казалі каб увязьніць яго, іншыя каб прыбіць да сьцяны і спаліць, яшчэ іншыя — утапіць». Япіскап Ігнаці (1206-1219) паслаў сваіх слугаў па Аўрама. «Пасланыя слугі, узяўшы яго, цягнулі як злачынцу; адны зьдзекаваліся з яго, іншыя насьміхаліся, абзывалі ганебнымі словамі. І ўвесь горад, і на вуліцах і на рынку — усюды грамады людзей, і мужчыны, кажу, і жанчыны, і дзеці, і цяжка было глядзець на тую ганьбу».

Суд адбываўся на япіскапскім двары ў прысутнасьці япіскапа, князя, баяраў і гарадзкога духавенства. Абвінавачвала сьвятога гарадзкое духавенства, што ён перацягвае да сябе іхных вернікаў, займаецца прарокаваньнем, мае няпрыстойныя зносіны з кабетамі, пашырае нейкія ерасі, якія вычытвае з «галубіных кнігаў» (праўдападобна маецца на ўвеце гэратычныя багумільскія кнігі). Абвінавачаньні былі на толькі беспадстаўнымі, што князь з баярамі прызналі Аўрама нявінным. У ягонай абароне выступаў якісьці сьвятар Лазар, агульна ўважаны за праведніка. Гэта яшчэ горш раззлавала заздрасных і бяссумленных невукаў сьвятароў. Жыцьцяпісець, сам сьвятар-манах з сьвятым абурэньнем апісвае паводзіны сваіх нягодных сабратоў: «узьюшаныя папы і ігумэны рыкалі як валы.... каб маглі дык бы жыўцом зьелі сьвятога... а князь і вяльможы, расьсьледаваўшы ўсё, не знайшлі ніякае віны, у абвінавачаньнях ніякае праўды, і пераканаўшыся, што ўсе абвінінелі лгуць, аднагалосна сказалі да япіскапа і да ўсіх: «Мы ніяк не далучаемся да абвінавачаньня ў тых крамолах, якія вы ўзьнялі супраць яго, і не далучаемся да таго, што супраць яго кажуць і намерваюць беззаконнае забойства». І сказаўшы: «багаславі, ойча, і даруй, Аўраме!» яны адыйшлі».

Хоць суд кончыўся нічым, аднак япіскап неадпусьціў сьвятога Аўрама. Затрымаў яго з двумя вучнямі пад старожаю і назаўтра сабраў чыста духоўны суд з ігумэнаў і сьвятароў. І гэты суд мусіў прызнаць нявіннасьць сьвявога, але відаць, каб супакоіць гарадзкое духавенства, япіскап загадаў Аўраму вярнуцца ў Багародзічны манастыр у Селішча і забараніў яму правіць Службу Божую. Гэта было вельмі балючае пакараньне для сьвятога, які да гэтага часу з абажаньня да Сьв. Эўхарыстыі правіў Службу Божую штодзенна.

Такі прысуд выклікаў абурэньне ў тых мана-

хаў, якія агульна ўважаліся праўднікамі. Двох з іх, ўжо успамінаны Лазар, наступнік яп. Ігнацiя на смаленскім япіскапскім пасадзе і Лука Прусін зьявіліся да япіскапа і прадказалі яму: «калі не пакаешся, дык будзе вялікі Божы гнеў на гэты горад». Яп. Ігнаці хутка паслаў зварот да ўсіх ігумэнаў і сьвятароў, каб перасталі зласловіць і абгаворваць Аўрама, аднак ня зьняў з яго забароны служэньня.

Прадказаная Божая кара хутка прыйшла ў форме страшнага сухменя. Малітваў япіскапа і усяго народу Бог ня выслухоўваў. Тады якісьці сьвятар параіў япіскапу паклікаць сьвятога Аўрама і паглянуць ягоны суд. Япіскап так і зрабіў. Пераканаўшыся канчаткова, што ўсе абвінавачаньні супраць яго ёсьць хлусьнёю, адклікаў кару і прасіў маліцца аб пакутыючым горадзе. Сьвяты Аўрам адразу пачаў шчыра маліцца і, пакуль дайшоў да свайго манастыра, паліўся доўгачаканы дождж. Пасьля гэтага больш сьв. Аўрама ня турбавалі ягоныя зайздросьнікі. Да ягонае келіі зноў ішлі бясконцыя громады наведвальнікаў.

Колькі часу пасьля тых падзеяў сьв. Аўрам аставаўся ў Селішчы, няма ведама. Праўдападобна даволі доўга. Адыйшоў канчаткова адтуль вось у якіх абставінах. Япіскап Ігнаці быў заплянаваў пабудову манастыра ў імя свайго сьвятога. Купіў за Смаленскам кусок поля і ўжо паставіў царкву, але не давёўшы свайго пляну да канца, чамусьці перадумаў і царкву перанёс на новае мейсца ды асьвяціў яе ў імя Палажэньня чэснае рызы і пояса Прэсьвятое Багародзіцы. Пры ёй збудаваў манастыр, у якім утрымоўваў за свой кошт некалькі старых, але чамусьці ня было ахвотнікаў ісьці туды за ігумэна. Тады япіскап выклікаў з Селішча Аўрама і запрапанаваў яму прыняць ігумэнства ў новазбудаваным Багародзічным манастыры. Аўрам з радасьцю прыняў прапазыку. Паводля свайго звычаю ён упрыгожыў царкву і пры кожнай нагодзе навучаў народ. У новы манастыр ён ніколі ня прыймаў больш як 17 манахаў.

Сьвяты Аўрам пражыў у манастве 50 гадоў. Дата ягонае сьмерці дакладна ня ведамая. Царкоўная традыцыя кажа, што ён памёр 21. VIII. 1221 году.

Чэсьць сьвятога ў Смаленску яму пачалі аддаваць адразу пасьля сьмерці, а ўва ўсёй Праваслаўнай Царкве пасьля сабору 1547 г. У Каталіцкай Царкве да нядаўна яму аддавалася чэсьць толькі на Беларусі. Цяпер ягонае імя знайходзіцца ўва ўсіх літургічных кнігах, бізантыйска-славянскага абраду, выданых у Ватыкане.

Мошчы сьвятога ў 1611 г. перанесена ў крыпты Смаленскага Багародзічнага вучылішчнага манастыра, а дзе яны падзеліся пасьля рэвалюцыі, няма ведама.

Аб пісаных творах сьв. Аўрама амаль нічога ня ведама. Некаторыя дасьледнікі лічаць яго аўтарам «Слова о небесных сілах» і «Сказанія». Іншыя супярэчаць гэтаму. У жыцьцяпісе сьв. Яфрэм не ўспамінае аб пісаных творах сьв. Аўрама, затое шмат гаворыць аб ягонай навучальнай дзейнасьці і аб спэцыяльным дары разуменьня Сьвятога Пісаньня: «Яму Бог даў ласку ня толькі чытаць, але і тлумачыць, так што для яго ня было нічога незразумелага ў Сьвятым пісаньні». Гэтае, выразна пераболынанае цьверджаньне жыцьцяпісца, сьведчыць аб глыбокіх багаслоўскіх ведах, якімі азначаўся сьв. Аўрам. Дзеля гэтага ад даўных давён яго лічаць патронам багаслоўскае асьветы на Беларусі і ў Расеі.

**А. Крылевіч**

# Прычыны палянізацыі на Беларусі

### НАЙБОЛЬШ РАСПАЎСЮДЖАНЫ ПАГЛЯД.

Адным з вельмі далікатных пытаньняў, дзе сплятаецца гісторыя Беларусі з гісторыяю суседніх краінаў і агульная гісторыя з гісторыяю Царквы на Беларусі, ёсьць праблема палянізацыі часткі беларускага народу. Гэтае пытаньне мае вельмі вялікае значэньне для гісторыі беларускае культуры і вельмі часта парушаецца пры розных нагодах, але да гэтага часу мала дасьледжана. Пры тым з лёгкае рукі супрацькаталіцкае расейскае прапаганды ў нас вельмі пашырыўся пагляд, які ўсю адказнасьць за палянізацыю ўскладае выключна на Каталіцкую Царкву. У новейшай і папулярнай літаратуры расійскія гістрорыкі, а за імі і некаторыя беларускія, паўтаралі і цяпер паўтараюць на ўсе лады, быццам каталіцызм ішоў на Беларусь толькі дзеля пашырэньня палянізацыі. Такі пагляд ёсьць наскрозь фальшывы і змог пашырыцца толькі таму, што ў часе найбольш узмоцненае палянізацыйнае акцыі ў XVII і XVIII стагодзьдзях усе дзяржаўныя і культурныя арганізацыйныя дзейнікі калішняе Рэчыпаспалітае ў тым ліку і Каталіцкая Царква ўдзельнічалі ў палянізацыі, а пасьля разбору Рэчыпаспалітае, калі разам з іншымі народамі паляк і страцілі сваю дзяржаўнасьць і новы адміністрацыйны апарат навет на этнаграфічных польскіх землях стаўся прыладаю вынараджаньня палякаў на карысьць акупуючых дзяржаваў, тады для палякаў асталася толькі Каталіцкая Царква і як рэлігійна-культурнае вогнішча і так-жа як наймацнейшае вогнішча

польскага нацыянальнага жыцьця, дзе магла прадаўжацца, распачатая перш, паланізацыя няпольскіх народаў калішняе Рэчыпаспалітае. Але і тады Царква была толькі адным з сродкаў, але ніколі прычынаю паланізацыі.

Тая-ж расейская прапаганда стараецца прадстаўляць Праваслаўную Царкву як абаронцу беларускае нацыянальнасьці, але толькі ў рамах складовае часткі расейскага народу. Гэтае цьверджаньне нават і ў расейскім разуменьні няпраўдзівае, бо ў Расейскай імпэрыі Праваслаўная Царква была прыладаю русыфікацыі, а ў калішняй Рэчыпаспалітай хутка паланізавалася. Ужо пасьля 1605 г. большая частка праваслаўнае палемічнае літаратуры друкавалася папольску, а пасьля 1626 г. не зьявіўся ніводзін палемічны твор, пісаны кірыліцаю(1). У аднолькавай-жа пасьля 1917 г. Польшчы за кароткі час Праваслаўная Царква была сталася прыладаю паланізацыі ня горшаю чым польская Каталіцкая Царква. І цяпер яшчэ ў Англіі польскі эміграцыйны ўрад захоўвае «Польскую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву» на чале з мітр. Матэям (Семашкам), які да сваіх вернікаў — «праваслаўных палякаў» — залічае праваслаўных беларусаў і украінцаў з Заходняе Беларусі і Зах. Украіны.

Асабліва вострыя дакоры сыпаліся і сыплюцца пад адрасам Каталіцкае Царквы ўсходняга абраду за тое, што яна быццам была пераходным мостам у паланізацыйнай акцыі. І гэта робіцца тады, калі гэтая Царква зазнавала ўжо пасьля таго як хваля паланізацыі агарнула большую частку нашае шляхты. Так-жа ведама, што гэтая Царква сталася наймагутнейшым апірышчам супраць вынарадаўленьня, для тых народаў, якія да яе належалі; дзеля таго калісь царскі ўрад неміласэрна зьнішчыў яе на ўсім абшары свае ўлады, каб магчы лягчэй русыфікаваць паняволеныя беларускі і украінскі народы. А на тых абшарах Украіны, дзе захавалася гэтая Царква, гэта значыць, дзе і далей в рнікі маглі йсьці па «мосьціку», замест да польскасьці, прыйшлі да непахіснае украінскае нацыянальнае сьведамасьці. На абшары Беларусі пасьля 1918 г. рабіліся стараньні мець гэткую-ж Царкву для беларускага народу, выклікаючы за гэта на сябе моцныя напады з боку польскіх кіраўнікоў.

За апошнія два стагадзьдзі пры абгаворваньні пытаньня паланізацыі сьведама мяшалася праўда з няпраўдаю, перакручаныя факты з тэндэнцыйна насьветленымі, падчыркваліся адны факты, прамоўчваліся іншыя — і цяпер усё гэта самою гісторыяй пастаўлена на парадку дня і дамагаецца неадкладнага выясьненьня. Для належнага яго разуменьня неабходна прыпомніць некаторыя гістарыяныя факты, якія часта прамоўчваюцца.

## ЧАС ПАШЫРЭНЬНЯ КАТАЛІЦЫЗМУ НА БЕЛАРУСІ.

Каталіцызм лацінскага абраду быў ведамы на абшары Беларусі здаўна, але ў шыршым абсягу пачаў пашырацца толькі пасьля Крэўскае пэрсанальнае вуніі 1385 г. Гэта быў час, калі беларуская культура ў шмат якіх галінах стаяла вышэй чым польская. Няраз падчас сустрэчаў беларускае і летувіскае шляхты з польскаю былі выпадкі пагардлівых адносін першых да апошняе. Тады на абшары Вялікага Літоўскага Княства была пашырана лягэнда аб паходжаньні літоўскае шляхты ад рымскіх арыстакратаў і сам назоў Літва стараліся выводзіць ад слова Італія. Прызнавала гэтая лягэнда некалькі стагодзьдзяў. Успаміналі аб ёй нават у часе, калі паланізацыйны працэс ішоў поўным ходам. Ведамы гісторык а. Каяловіч, прызнаючы, што ў пачатках Вялікага Літоўскага Княства ёсьць шмат няпэўнага і лягэндарнага, не забываецца з пашанаю пераказаць, як сам кажа, «няпэўную тэорыю», адносна назову, што быццам «Italiam in Litaliam, tandem in Lituaniam transformisse» (2). Наагул усе так званыя Літоўскія летапісы, (варта зацеміць, што яны ўсе пісаныя пабеларуску) паўтараюць лягэнду аб паходжаньні свае шляхты з Рыму. З гэтага гледзішча ў хроніцы Быхаўца апавядаецца аб вельмі характэрным здарэньні: Аднойчы «Панове Літовскіі поведалі цэзару і князю великому Вітольту тым обычаем: Мілостывы Цэзару і господару наш, велікі княжэ Вітольтэ, Ляхове не была шляхта, але былі люды простыі, ані мелі гербов своіх і велікімі дары того доходілі в Чэхов беручы так велікіі скарбы от ніх і гэрбов свох іж жычылі і шляхтою іх почынілі, і в гэрбы свої іх прынялі, але мы шляхта старая Рымская, которую прэдкі нашы з тымі гэрбы своімі зошлі до тых панств...»(3)

Гэта быў час, калі беларуская ўрадовая мова стаяла на толькі вышэй за польскую, што калі палякі на пачатку XV ст. хацелі мець больш зразумелымі некаторыя статуты, пісаныя палацінe, дык перакладалі іх на беларускую мову. Гэтак у 1420 г. перакладзена ў Кракаве на тагачасную беларускую мову Варцкі статут, а ў 1423 г. Вісьліцкі і Ягайлаў статуты, бо польская мова была яшчэ за беднаю для гэткіх перакладаў. Падобнае зьявішча назіралася і ў іншых галінах культуры. Дзеля гэтага, хоць каталіцызм прыйшоў на Беларусь з Польшчы пасьля 1385 г. і першыя ка-

1) Поўны храналёгічны сьпіс палемічнае літаратуры ў Рэчыпаспалітай падае Antoine Martel. — La langue polonaise dans les pays ruthenes Ukraine et Russie Blanche 1569-1667. Lille 1938. star. 142-150.

2) Alberto Wiiuk Koialowicz, — Historiae Lituanae pars prima. Danzig 1650. star. 8.

3) Полное собраніе Русскихъ Лѣтописей. Том 17. С. Петербургъ 1907, стар. 527.

таліцкія сьвятары былі палякі, але вельмі хутка ён прыняў беларускі характар і на беларускіх і нават на летувіскіх абшарах.

## БЕЛАРУСКІ ХАРАКТАР КАТАЛІЦКАЕ ЦАРКВЫ Ў XVУ І XVI СТ.

Першае каталіцкае біскупства лацінскага абраду на абшары Беларусі было заснована ў 1387 г. у Вільні і да XVIII ст. яно было адзіным. Першы біскуп быў паляк, але ягоныя наступнікі чаргаваліся: беларусы, летувісы і палякі, аднак ўжо ад палавіны XV ст. і аж да XVII ст. былі толькі беларусы і летувісы.

Па-за літургічнаю лацінскаю моваю усё духавенства на абшары Вялікага Княства карысталася беларускаю моваю. Сакратар вял. князя Аляксандра віленскі пралат Эразм Вітэлі ў сваёй справаздачы ў Рым з дня 31. III. 1501 г. падае вельмі характэрнае абгрунтаваньне гэткае практыкі адносна летувісаў: «Захоўваюць уласную мову, аднак таму, што беларусы засяляюць сярэдзіну княства і іхняя гаворка ёсьць прыгажэйшаю і лягчэйшаю, дык усе яе ўжываюць агульна» (4). Ды інакш і быць не магло, бо-ж Вялікае Літоўскае Княства гэта паводля сучаснае тэрміналёгіі было Беларускае Княства, а сучасная Летува называлася тады Жмудзь, або Жамойць і тварыла асобную правінцыю ў Княстве. Урадаваю моваю ўва ўсім Вялікім Княстве была аж да 1697 г. беларуская мова, якая ўсё «выразьней набліжалсая да беларускае разгаворнае мовы» (5).

У XV ст. для Каталіцкае Царквы на Беларусі беларускасьць была на толькі чымсьці самазразумелым, што паясьненьні да літургічных лацінскіх практыкаў пачалі пісацца пабеларуску: «Какъ ся миша четь римскимъ обычаемъ Ма(т)цѣ Божіей»; пабожная лектура: «О оустани Кристусовѣ изъ мертвыхъ», а нават некаторыя лацінскія малітвы, як «Патэр ностэр», «Авэ Марія» і Сымбаль веры часам пісаліся кірыліцаю (6). Наагул, паводля сьведчаньня тагачаснага польскага дзеяча Яна Шчэнсната-Губэрта «Русь веры рымскае была ня горшаю за Русь веры грэцкае». Гэты факт прызнае нават і вельмі няпрыхільны да каталіцызму гісторык Батюшкоў: «Пры панаваньні рускае мовы ў Літве, тут каталіцтва зьяўлялася «рускім каталіцтвам» у адрозьненьне з аднаго боку ад польскага каталіцтва, а з другога ад усходняга расейскага праваслаўя» (7).

4) Theiner August, — Vetera monumenta Poloniae et Lithuaniae gentiumque finitimarum. Tomus 2. Romae 1861, star. 278.

5) Chr. S. Stang, — Die westrussische Kanzelsprache der Grossfürstentums Litauen. Oslo 1935, star. 123.

6) Е. Карскій, — Бѣлоруссы. Том I. Варшава 1903; В. Ластоўскі, — Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. Коўня 1926, стар. 182.

7) П. Н. Батюшковъ, — Бѣлоруссія и Литва. С. Петербургъ 1890, стар. 108, Примечанія, стар. 16, нр. 286.

Адносна беларускага характару каталіцтва ў Вялікім Княстве на працягу XV-XVI стагодзьдзяў ёсьць нязьлічаная колькасьць дакумантаў. У мінулым стагодзьдзі рэдакцыя «Виленскаго Вѣстника» апублікавала вялікі том матэрыялаў з архіву Віленскае каталіцкае кансісторыі, пісаных тагачаснаю беларускаю моваю (8). Некалькі такіх дакумантаў зьявілася ў «Беларускім архіве». Там ёсьць між іншым ліст караля Жыгімонта «Велебнаму в Бозе князю Юрью кардиналу» (Радзівілу) з 15.I.1589 г. (9).

Ды ня толькі мова, але і дзейнасьць віленскіх каталіцкіх біскупаў з таго часу сьведчыць аб іхным беларускім патрыятызме. Напрыклад на дамаганьне віленскага біскупа Мацея з Трок (1421-1452) вял. князь Казімер у 1447 г. згадзіўся не назначаць настаяцелямі манастыроў, ані ў катэдру сьвятароў чужынцоў, пад якімі разумеліся тады палякі а ў 1451 г. гэты біскуп на зьезьдзе ў Парчаве дамагаўся скасаваньня Ягайлаве вуніі з Польшчаю (10).

Асобна трэба зьвярнуць увагу на першапачаткавую дзейнасьць езуітаў у Беларусі, бо адносна іх усьцяж вядзецца прапаганда з расейскага боку, быццам яны былі найпаважнейшым штуршком палянізацыі ад першых крокаў свае дзейнасьці ў Вялікім Княстве. У пазьнейшай дзейнасьці яны сапраўды рабілі шмат для палянізацыі, але ў даным выпадку нас цікавіць, як яны распачалі сваю працу на Беларусі.

Заклікаў езуітаў у Беларусь віленскі біскуп Валерыян Пратасэвіч у 1569 г. для змаганьня з рэфармацыяй і для падняцьця каталіцызму (11). Як убачым далей, усе рэфарматарскія, ці дакладней кажучы, пратэстанцкія сэкты на Беларусі вялі працу ў польскай мове і ў польскім духу, і гэта ў вялікай ступені забавязвала езуітаў весьці супрацьпратэстанцкую акцыю так-жа папольску. Аднак міма гэтага езуіты спачатку не ўважалі сябе забавязанымі да польскасьці ў супрацьпратэстанцкай дзейнасьці і прызналі шырокае поле для беларускае мовы. У іхных школах ува ўсіх краінах усеўладнаю была лацінская мова; і вось вельмі характэрны факт, што ў Віленскай Акадэміі, быў на некаторы час зроблены выняткак і а. Фабрыцый выкладаў багасловіе пабеларуску (12). А ў гімна-

8) Историческій архивъ Виленской римско-католической духовной консисторіи. «Виленскій Вѣстникъ» 1889 г. Нр. 230.

9) Беларускі Архіў. Том III. Менскія Акты. Вып. першы. Менск 1931, стар. 37-38.

10) Antoine Martel, — La langue polonaise dans les pays ruthènes Ukraine et Russie Blanche 1567-1667. Lille 1938, star. 172.

11) St. Załęski, — Jezuici w Polsce. Tom I. Lwow 1900.

12) Alberto Wiiuk Koialowicz, — Miscelina rerum ad statum ecclesiasticum in magno Lituaniae ducati pertinentium. Vilnae 1650, star. 226.

вось калі гальшанскі вікарны ксёндз у 1901 г. езьдзіў па калядзе ў Барунах і, зайшоўшы да Юрэвіча, даведаўся ад Адася пра адносіны ў школе, дык казаў яму, каб безадкладна кінуў Барунскую школу ды пераязджаў у Гальшаны. У сярэдзіне школьнага году зьмяняць школу было нязручна, дык прыйшлося пабыць у Барунах да вясны. На наступны школьны год Адась быў ужо ў Гальшанах. Там ён прабыў ад 1902 да 1904 году. У Гальшынскай народнай школе вучняў-каталікаў вучыў рэлігіі мяйсцовы ксёндз. Кватэру у Гальшанах Адась меў так-жа шмат лепшую, як у Барунах. Тут ён кватэраваўся ў пабожнага і працавітага шаўца Тармасэвіча і хутка зжыўся з сям'ёю гаспадара быццам з раднёю.

Навука ў Гальшанскай школе Адаму йшла лёгка. Але больш чым школаю ён цяпер цікавіўся касьцёлам і рэлігійным жыцьцём. Усе вучні каталікі стараліся прыслужваць да імшы і трэба было мець шмат вытрываласьці і стойкасьці, каб раніцаю першым дастаць у захрыстыяна комжу ды выйсьці з ксяндзом да аўтара. Няраз у сьвяты Адам быў у касьцеле ад цямна да цямна, каб магчы прыслугоўваць ува ўсіх набажэнствах.

Па сканчэньні Гальшанскае школы адбыўся экзамін у суседняй Міхалоўшчыне. Прайшоў ён памысна.

Восеньню 1904 г. бацькі выправілі Адама на далейшую навуку ў гарадзкое вучылішча ў Ашмяне. Уступны экзамін прайшоў добра, і добрым быў увесь далейшы курс у вучылішчы. Праўда не да ўсіх прадметаў Адам меў аднолькавае зацікаўленьне; з матэматыкі часам накульгваў, затое вызначаўся ў гуманістычных прадметах. Якраз у тым часе адбылася ў Расеі рэвацюлыя 1905 г., якая сталася для Адама важным дзейнікам паглыбленьня рэлігійнага, нацыянальнага, сацыяльнага і палітычнага пагляда. У Ашмянскай школе так-жа адбылася забастоўка з частковым посьпехам і няўдачамі — быў перанесены кудысь нялюбы ўсім інспэктар, але пры гэтым былі арыштованы два найбольш любыя настаўнікі. У тым часе стала перад Адамам ува ўсёй сваёй вастрыні рэлігійная праблема. Будучы каталікам лацінскага абраду, таго абраду, які папулярна называўся «польскаю верою», ён сябе не пачуваў палякам, больш таго — лічыў сябе беларусам, але ў школе ўвесь час настаўнікі паўтаралі, што «рускія дзеляцца на Вялікарусаў, Маларусаў і Беларусаў» і гэта стварала для Адама праблему рускасьці, якую канчаткова вырашыў толькі ў сэмінарыі.

Да ўмацаваньня беларускае нацыянальнае сьведамасьці шмат прычынілася «Наша Ніва», з якою Адам стрэнуўся ў 1908 г., а ў наступным годзе стаўся яе карэспандэнтам. Немалы ўплыў на яго меў так-жа айцец Адам Лісоўкі, які будучы студэнтам Каталіцкае Духоўнае Акадэміі ў Пецярбурзе пісаў лісты да бацькоў пабеларуску і падчас канікулаў у роднай вёсцы гаварыў з сялянамі пабеларуску, даваў ім чытаць беларускія кніжкі. Ад яго ў рукі Адама трапілі «Дудка беларуская» і «Смык беларускі» Фр. Багушэвіча.

Па сканчэньні гарадзкога вучылішча трэба было думаць, што рабіць далей. Каб уступіць у гімназію і потым на унівэрсытэт, не дазвалялі матэрыяльныя магчымасьці бацькоў Адама. Некаторыя ягоныя школьныя сябры пайшлі ў юнкерскую школу ў Вільні з намерам стацца афіцэрамі царскае арміі і заахвочвалі яго пайсьці сьледам за імі, але пазнаёміўшыся бліжэй з жыцьцём ваеннае моладзі тае школы, рашуча адкінуў думку аб вайсковай кар'еры. З маленства Адам меў вялікае зацікаўленьне да касьцёла і нахіл да духоўнага стану. І вось цяпер, калі паважна думаў аб далейшым выбары свае жыцьцёвае дарогі, летам 1908 г. сгрэнуўся з айцом А. Лісоўскім у ягонай роднай вёсцы Каранды, што была недалёка ад Арлянятаў. Гутарка з ім і асабліва з ягоным бацькам канчаткова ўмацавала жаданьне стацца сьвятаром. Але з ашмянскага гарадзкога вучылішча нельга было ўступіць у Сэмінарыю — трэба было дапоўніць некаторыя прадметы, як: лаціна, матэматыка, гісторыя і замежная мова. Вялікую дапамогу ў перамозе гэтых недахопаў зрабіў стары Лісоўскі. Ён завёз Адама ў Вільню, там знайшоў для яго настаўніка і кватэру ў Новай Вілейцы.

Вясною 1910 г. Адам паехаў у Маскву здаваць экзамін за 4 кл. гімназіі пры Вучэбным Вокрузе. Гэты экзамін можна было здаваць і ў Вільні, але тут пры падобных экзамінах шмат «рэзалі», а ў Маскве было лягчэй, вось-жа для большае пэўнасьці экзаміну давялося пазнаць старую Маскву. Экзамін прайшоў памысна і восеньню таго-ж году адбыўся так-жа памысны уступны экзамін у Віленскую Каталіцкую Духоўную Сэмінарыю.

У Сэмінарыі аднача сна з навукаю Адам шмат чытаў кніг з галіны філязофіі, агульнае гісторыі і гісторыі Беларусі. Ягоныя сябры сэмінарысты былі пераважна апалячаныя беларусы. Вось-жа ўвайшоўшы ў курс сэмінарыйнага жыцьця, паволі пачаў весьці сыстэматычную ўсьведамляючую працу між сяброў, спачатку аднакурсьнікаў, а потым і ў старэйшых курсах. Адны з іх нясьмела прызнаваліся да беларускасьці, іншыя не. У Сэмінарыі было нямала летувісаў, яны наагул да беларусаў адносіліся спагадна.

У 1911 г., калі Адам быў ужо на другім курсе, каля яго згуртавалася больш дзесятка сьведамых беларусаў. Цяпер можна было падумаць аб залегалізаваньні беларускага гуртка перад сэмінарыйнымі ўладамі. Душою арганізацыі быў Адам і ён зьвярнуўся да рэктара ў гэтай справе. Рэктар спачатку меў некаторыя засьцяроті да гуртка, баючыся, каб беларускі рух ня прынёс шкоды Каталіцкай Царкве, але калі пачуў ад Ада-

ма, што беларусы імкнуцца да таго, каб з беларускага адраджэньня была так-жа карысьць і для каталіцызму, дык дазволіў на існаваньне гуртка і беларускае бібліятэчкі пры ім, але з умоваю, што кніжкі, якія будуць прыходзіць у бібліятэчку, ён мусіць перш сам пераглянуць.

Праца беларускага гуртка ў Сэмінарыі хутка дала добрыя вынікі. У штогодніх вечарох перад запускамі зьявіліся ў праграме беларускія нумары; лік сьведамых беларусаў між сэмінарыстаў паволі ўзрастаў.

Па сканчэньні Сэмінарыі Адам пастанавіў вучыцца далей. Восеньню 1914 г., не зважаючы на ваенны час, ён ужо быў у Пецярбурскай Каталіцкай Духоўнай Акадэміі і там 28-XII (па старому стылю) атрымаў сьвятарскае сьвячэньне.

У Акадэміі і для навукі, і для рэлігійнае, і для нацыянальнае працы было вельмі шырокае поле. Тут ужо існаваў беларускі гурток з багатаю бібліятэкаю. Да таго была аграмадная акадэмічная бібліятэка. У пэцярбурскім унівэрсытэце быў бебеларускі студэнцкі гурток. Наагул беларуская калёнія ў Пецярбурзе была даволі актыўная. Там паўстала першая легальная беларуская арганізацыя ў 1902 г. «Круг беларускае народнае прасьветы і культуры», там у 1906 г. зарганізавалася першая беларуская выдавецкая супалка «Загляне сонца ў наша ваконца». З усімі гэтымі арганізацыямі айцец Адам быў у блізкай лучнасьці і ў першую чаргу з піянэрам беларускага адраджэнскага руху праф. Бр. Эпімахам-Шыпіллаю.

У акадэмічным беларускім гуртку а. Адам адразу быў выбраны сакратаром, а ў 1916 старшынёю і займаў гэтае становішча аж да сканчэньня Акадэміі ў 1918 г. (Гэта быў апошні год яе існаваньня).

У Акадэміі былі два факультэты: дагматычна-біблійны і маральна-праўны. Айцец Адам студыяваў на гэтым другім. Перад канцом студыяў, здаўшы ўсе экзаміны і залікі, ён атрымаў ступень кандыдата кананічнага права і быў узяўся за магістэрскую працу на тэму: «Навука сьв. Тамаша Аквіната аб сям'і ў параўнаньні з сучаснай тэорыяй аб гольнай любові», але калі ўжо зрабіў самае важнае ў падрыхтоўчай навуковай працы, закінуў зусім далейшыя студыі свае магістэрскае працы і заняўся студыямі мовы і філязафічных ды грамадзкіх праблемаў.

Ужо ў 1916 г. а. Адам напісаў колькі артыкулаў у газэты «Сьветач», «Дзяньніца», а калі ў 1917 г. зьявілася «Крыніца», ён навязаў з яе рэдакцыяю блізкае супрацоўніцтва.

У траўні 1917 г. заснавалася ў Пятраградзе Беларуская Хрысьціянская Дэмакратычная Злучнасьць і а. Адам адразу стаўся яе актыўным сябрам, а потым стаўся яе фактычным кіраўніком.

Год 1917 наагул вызначаецца вялікімі пераменамі. Пасьля лютаўскае рэвалюцыі на ўсім абшары былае Расейскае імпэрыі адбываліся паважныя нацыянальныя і рэлігійныя ўзрухі. Не зважаючы на тое, што ў тым часе праз Беларусь прайходзіў ваенны фронт і цяжыла ваеннае становішча, беларускі вызволны нацыянальны і рэлігійны рух мацнеў з дня на дзень. У Менску 24-25/V 1917 г. адбыўся першы зьезд беларускага каталіцкага духавенства, на якім абмяркоўваліся найбольш актуальныя пытаньні беларускага рэлігійнага жыцьця. На гэтым зьезьдзе а. Адам чытаў рэфэрат аб беларускім руху і ягоных адносінах да рэлігійнага жыцьця. Некаторыя жаданьні, выказаныя на Зьезьдзе часткава пачалі ажыцьцяўляцца ў тым-жа годзе. Магілёўскі архібіскуп дэ Ропп ў 1917 г. афіцыяльна дазволіў беларускія казаньні і 21. VII ў прысутнасьці архібіскупа а. Адам меў першае казаньне пабеларуску ў Дзісьне.

Вясною 1918 г. айцец Адам кончыў акадэмічныя студыі і з вялікімі клопатамі прабраўся на Беларусь, але, не дайшоўшы да Вільні праз усю весну і лета жыў у айца Шутовіча ў Барадзенічах, гаворачы беларускія казаньні ў ваколічных касьцёлах. Толькі восеньню 1918 г. з вялікімі цяжкасьцямі яму ўдалося атрымаць ад нямецкіх акупацыйных уладаў дазвол прыехаць у Вільню. У Віленскім біскупстве тагачасныя польскія кіраўнікі стрэнулі яго няпрыхільна і хутка адправілі у польскую парахвію (Драгічын над Бугам). На шчасьце ў тым-жа 1918 г. прыбыў у Вільню Я. Э. Юры Матулевіч, які дазволіў а. Адаму вярнуцца ў Вільню і заняцца грамадзкаю працаю.

Якраз калі а. Адам зьявіўся ў Вільні, там адчыніўся унівэрсытэт і гэта выклікала жаданьне дапоўніць свае студыі. Ён прыватна яшчэ два гады наведваў праўны факультэт. Але на студыі яму аставалася вельмі мала часу, бо трэба было рэдагаваць «Крыніцу», удзельнічаць у Камітэце Помачы Ахвярам Вайны, выкладаць каталіцкую рэлігію ў Беларускай Гімназіі, і інш. Восеньню 1921 г. распачаліся ў Вільні рэгулярныя набажэнствы для беларусаў каталікаў і а. Адам штонядзелі гаварыў беларускія казаньні. У далейшым на яго плечы ўзвальваліся ўсё новыя і новыя абавязкі.

Падчас першых выбараў у першы польскі сойм 1922 г. а. Адам быў выбраны беларускім паслом. Тады бараніў беларускую справу ня толькі на сэймовай трыбуне, але так-жа і ў кругох замежных дыплёматаў.

Праз сваю кіпучую дзейнасьць ужо у той час а. Адам здабыў такі вялікі аўтарытэт у беларускім грамадзтве, што калі ў 1924 г. менскія беларусы распачалі стараньні аб беларускім каталіцкім біскупе, дык адразу зьвярнуліся да яго, каб згадзіўся быць кандыдатам на гэтае становішча, але дзеля шматлікіх прычынаў праект ня быў ажыцьцёўлены.

Па сканчэньні пасольскае кадэнцыі ў 1926 г.

а. Адам прысьвяціў шмат увагі навукова-выдавецкай дзейнасьці. Заснаваў у Вільні беларускую друкарню ім. Фр. Скарны, якая сталася найбольш плодным цэнтрам беларускага друкаванага слова ў Заходняй Беларусі. Адтуль штогод выходзіла некалькі беларускіх кніжак і там друкавалася некалькі беларускіх пэрыёдыкаў: «Беларуская Крыніца», «Хрысціянская думка», пад рэдакцыяй самога айца Адама, «Шлях моладзі» ад 1932 г., «Самапомач» ад 1935 г., «Калосьсе» ад 1937 г. Для матэрыяльнага забесьпячэньня беларускае рэлігійнае прэсы ў 1928 г. ён заснаваў Беларускае Каталіцкае Выдавецтва.

За сваю працу на беларускай ніве а. Адам меў шмат прыкрасьцяў ад польскіх духоўных уладаў. У 1926 г. Віленскі архібіскупскі пасад заняў Я. Э. Ялбжыкоўскі, ведамы, з крайняга польскага шавінізму і варожасьці да ўсяго беларускага. Ён часта заклікаў да сябе а. Адама ды рабіў дакоры і пагрозы за ягоную дзейнасьць. Калі-ж ніякія пагрозы не зьмяншалі кіпучае працы а. Адама, тады 10. XII. 1928 г. архібіскуп Ялбжыкоўскі забараніў вернікам у сваёй дыяцэзіі належаць да Беларускае Хрысьціянскае Дэмакратыі, чытаць «Беларускую Крыніцу» і асобным загадам забараніў а. Адаму супрацоўнічаць у «Беларускай Крыніцы» і, ведама-ж, належаць да БХД. Гэтая забарона мела на мэце скампрамітаваць беларускі каталіцкі рух, але ў сапраўднасьці скампрамітавала самога архібіскупа.

Калі польскі наступ на беларускі рух гвалтам зьменшваў поле беларускае культурнае і рэлігійнае дзейнасьці, тады а. Адам пачаў больш прысьвячаць часу навукова-публіцыстычнай дзейнасьці. С-пад ягонага пяра выйшла каля дзьвёх тысяч артыкулаў ў розных газэтах і часапісах; ён напісаў больш дзесятка ўступных разьдзелаў да розных кніжак, якія падрыхтаваў да выданьня і выдаў 17 уласных кніжак: 1) «Беларуская мова ў школах Беларусі XVI і XVII ст.» — 1928, 2) «Родная мова ў сьвятынях» — 1929, 3) «Францішак Багушэвіч, яго жыцьцё і творчасьць» — 1930, 4) «Вітаўт Вялікі і Беларусы» — 1930, 5) «Казімер Сваяк; нарыс аб ягонай ідэолёгіі» — 1931, 6) «Кастусь Каліноўскі, «Мужыцкая праўда», і ідэя незалежнасьці Беларусі» — 1933, 7) «Праф. Браніслаў Эпімах-Шыпіла. З яго жыцьця і працы» — 1935, 8) «Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня» — 1935, 9) «З жыцьця і дзейнасьці Казімера Сваяка» — 1936, 10) «Магнушэўскі, Паўлюк Бахрым, Баброўскі» — 1937, 11) «Божае слова на нядзелі і сьвяты» — 1938, 12) «Лекцыі і Эванэліі на нядзелі і сьвяты» — 1938, 13) «Міхал Забэйда-Суміцкі і беларуская народная песьня» — 1938, 14) «У чэсьць 950-годзьдзя хрышчэньня Беларусі» — 1938, 15) «Беларускі хрысьціянскі рух — 1939, 16) «Хрысьціянства і Беларускі Народ» — 1940, 17) «Вучыся і маліся. Малітаўнічак» — 1944.

У сваёй рознаякай працы а. Адам зьвяртаў асаблівую ўвагу на кантакты з прадстаўнікамі тых народаў, якія спрыялі беларусам.

З мамэнтам калі польскі супрацьбеларускі наступ прыняў формы вострага адміністрацыйнага тэрору, дня 28. XI. 1938 г. зьявіўся загад Віленскага ваяводы аб высяленьні а. Адама Станкевіча, разам з а. Талочкам і інж. Клімовічам з прыгранічнае паласы. Стаўшыся выгнанцам з роднага абшару, ён не пакідае зусім бацькаўшчыны, асяляецца ў Слоніме і, не зважаючы на востры паліцыйны надзор, прадаўжае сваю навуковую працу. Самое высяленьне толькі спачатку прыгнобіла а. Адама, але хутка яно сталася штуршком да больш упорыстае працы, бо і так папулярная ягоная асоба праз высяленьне сталася паўсюдна ведамаю і дарагаю кожнаму сьведамаму беларусу; такое прызнаньне было яму вялікаю маральнаю падтрымкаю. Таму ў процівагу акту высяленьня беларусы ў Вільні заснавалі ў 1939 г. камітэт для падрыхтоўкі ўрачыстага ўшанаваньня 25-годзьдзя ягонага сьвятарства. Ваенныя падзеі на некаторы час былі затрымалі працу камітэту, але калі праз два тыдні ў верасьні 1939 г. ад польскае ганарыстае ўлады не асталося і чэпалаху, а. Адам вярнуўся ў кастрычніку 1939 г. у Вільню і там 14 студзеня 1940 г. Беларускія жанчыны падарылі яму вышыты арнамант і альбу, у якіх сам юбіляр адправіў урачыстую імшу падзякі ў перапоўненым касьцёле сьв. Мікалая. Таго-ж дня адбылася акадэмія на яго чэсьць з шматлікімі прамовамі беларускіх і іншанацыянальных прадстаўнікоў. Віленскія беларуская, летувіская і польская прэса прысьвяцілі яму спэцыяльныя артыкулы.

За кароткі час летувіскае ўлады ў Вільні а. Адам арганізаваў беларускую дзяржаўную прагімназію і беларускую пачатковую школу. Беларускі арганізацыйны рух на кароткі час быў афармiўся як Беларускі Цэнтр ў Летуве, на старшыню выбрана а. Адама.

Калі 15. V. 1940 г. бальшавікі канчаткова апанавалі Вільню, а. Адам мусіў спыніць сваю грамадзкую працу, але калі ў наступным годзе Вільню занялі немцы, ён з неслабеючаю энэргіяю бярэцца аднаўляць разбураныя бальшавікамі беларускія інстытуцыі хоць і ў тых невялікіх рамках, на якія дазваляла акупацыйная ўлада. Дзякуючы ягоным стараньням адноўлена ў Вільні Беларускую Гімназію і на пачатку 1944 г. ён змог яшчэ выдаць невялікі малітаўнік для вучняў каталікоў.

У ліпені 1944 г. бальшавікі зноў занялі Вільню, Цяпер беларуская праца так ў самай Вільні, як і ў Віленшчыне была строга забаронена. Чырвоны тэрор пад прэтэкстам ваеннае навальніцы пачаў вынішчаць ўсё беларускае, у першую чаргу інтэлігенцыю, якая адважылася астацца на бацьь-

каўшчыне. Як звычайна, робяць злачынцы, усе свае крывавыя ўчынкі бальшавікі прыкрывалі жуткаю моўчанкаю. Весткі, якія ў тым часе пранікалі з бацькаўшчыны, былі няпэўныя і часам супярэчныя. Раз даходзілі чуткі, што а. Адам быў арыштованы ўканцы лета 1944 г. і загінуў у турме НКВД, іншы раз паведамлялі, што ён працуе на парахвіі ў Беласточчыне. Тады аўтар гэтых радкоў лістоўна зьвярнуўся ў канцылярыю віленскае мітраполіі, якая мясьцілася ў Беластоку з запытаньнем аб долі а. Адама Станкевіча. На ліст прыйшоў карткі адказ 25. 2. 1948 г., што «а. Адам Станкевіч далей прабывае ў Вільні». Як прабывае і што робіць? — аб гэтым не казалася ні слова. Толькі нядаўна амаль адначасна зьявіліся дзьве весткі, што а. Адам два гады таму быў арыштаваны і высланы ў канцэнратыйны лагэр, а другая вестка, больш сумная (хоць і ня зусім пэўная), што ён памёр на Салавецкіх абтоках уканцы 1955 г.

Сьмерць айца Адама Станкевіча ёсьць вельмі вялікаю стратаю для беларускага народу і ў сёньняшніх умовах тымбольш балючая, што нават немагчыма хоць у дробнай часьці злажыць яму тую пашану, на якую ён заслужыў. Праўда праз усё сваё жыцьцё ён ня шукаў сабе ані славы, ані почасьцяў; аддаўшы раз і назаўсёды ўсяго сябе на ахвярную службу для збаўленьня людзкіх душ, ён у першую чаргу ахвяроўваў сябе штодня ў сьвятой Службе Божай за родны беларускі народ, а ў сваёй няўсыпушчай дзейнасьці рабіў усё, што толькі было ў яго сілах і магчымасьцях, каб прычыніцца да лепшае будучыні свайго народу.

**а. Л. Гарошка**

# Апошнія гады жыцьця ўладыкі Андрэя Цікоты

Сёлета некалькі каталіцкіх сьвятароў змагло выйсьці з савецкіх лягэраў прымусовае працы і прыехаць у вольны сьвет. Адзін з іх, айцец Шалей, які даўжэйшы час працаваў разам з беларускімі айцамі Марыянамі ў Харбіне, дзякуючы нязвычайнаму Божаму правіду, меў магчымасьць даведацца аб апошніх гадох жыцьця і цярпеньня ўладыкі айца Андрэя Цікоты. Тут падаём у скароце ягонае сьведчаньне.

Як толькі кітайскія камуністычныя войскі занялі Харбін, дык па загаду з Масквы ўканцы 1948 году арыштавалі ўсіх каталіцкіх сьвятароў у гэтым горадзе і між імі ўсіх беларускіх айцоў Марыянаў, якія там працавалі ад 1928 г. Усіх беларускіх сьвятароў перадалі расейцам, а тыя іх пратрымалі цэлы год бяз суду ў прыгранічных сібірскіх лягэрах і турмах, зьбіраючы матэрыял для судовага працэсу. Суд адбыўся на аснове выдуманых абвінавачаньняў, як гэта звычайна робяць бальшавікі адносна духавенства. Пазасуджавалі айцоў на розныя кары і парасьсялялі па розных лягэрах. Айца Цікоту некаторы час трымалі ў адзіночнай камэры пад асаблівым рэжымам. Незабавам да яго зьявіўся афіцэр МВД і абяцаў свабоду, калі згодзіцца перайсьці на праваславіе і ачоліць у БССР Беларускую Праваслаўную Аўтакефальную Царкву. На такую прапанову а. Цікота нічога не адказаў. Некалькі тыдняў пасьля гэтага зьявіўся да яго гэнэрал МВД з тою-ж прапановаю і абяцанкамі, паясьняючы пры тым, што а. Цікота мусіў-бы старацца прыцягнуць беларусаў каталікоў у лона Бал. Аўтак. Царквы і супрацоўнічаць з урадаўцамі МВД у кіраўніцтве Царквою. Гэтую прапанову а. Цікота катэгарычна адкінуў.

Пачаліся пагрозы, потым страшэнныя мукі, і фізычныя і маральныя, але яны не зламалі яго. Ад катаваньняў і недаяданьня а. Андрэй быў вычнажаны да крайнасьці; раны на целе не зажывалі; ад вопраткі асталіся толькі рызманы. Усё сваё цярпеньне ён перанёсіў мужна, пахрысьціянску, ахвяроўваючы іх за свой народ. Быў у некалькіх лягэрах. Апошнім часам знаходзіўся ў ваколіцах Караганды (Казахская ССР). Калі ўжо ад зьнямоганьня ня мог хадзіць, яго ўзялі ў шпіталь, дзе 21 лютага 1952 г. аддаў душу Богу.

Гэройская пастава ўладыкі Андрэя Цікоты зьдзівіла нават загараваных на ўсё эмвэдыстаў. Афіцэр МВД, які меў даручэньне сачыць за ягоным кожным крокам, навярнуўся на каталіцызм і трапіў у няласку свайго начальства, быў арыштаваны і засуджаны ў лягэр прымусовае працы. Калі ехаў у назначаны лягэр, на адной з вузлавых сібірскіх станцыяў стрэнуў а. П. Шалея, які нядаўна быў выпушчаны на волю і вяртаўся ў Францыю, і перадаў яму па даручэньні пакойнага ўладыкі Андрэя, вышэйсказанае.

# Парог за парогам

(Працяг 8-ы да апавяданьня **«Няведамыя шляхі»**)

Матуральны экзамін часта называюць вялікім парогам у жыцьці гімназістаў. Вялікі — бо ня шмат гімназістаў да яго даходзіць і з тых, што даходзяць нямала спатыкаюцца, пераступаючы праз яго, а ў некаторых з тых што пераступаюць, пачынае ў галаве кружыцца. Што і казаць, не дарма той па-

рог назвалі вялікім. Андрэй пераступіў яго ўдала і разам з невялікім гуртком сваіх сяброў, такіх-жа шчасьліўцаў, як і сам, супольна азначыў гэтую падзею паводля адвечнага звычаю. Справілі банкет, як мае быць. На гэта ён зьбіраў амаль паўгоду дробныя ашчаднасьці з сваіх невялікіх заработкаў за лекцыі, каб не адставаць ад іншых нават у тым, што для яго было найцяжэйшым.

Як толькі заціх радасны гоман банкету, сьцьмілася і радасьць з атрыманае матуры. Пытаньне, якое ўжо ня раз не давала Андрэю супакою: што рабіць далей? — зноў вырынула на дзённы парадак і стала рубам. Адказаць на яго было вельмі цяжка. Праўда, гімназісты васьміклясьнікі задоўга перад матуральным экзамінам няраз у бурсе гаварылі на гэтую тэму, але найчасьцей да нічога канкрэтнага не дагаворваліся. Кожны выяўляў толькі своё жаданьне, кім хацеў-бы быць, але за выняткам некалькі чалавек, іншыя не маглі намеціць нейкага яснага пляну для асягненьня сваіх лятуценьняў. Звычайна такія гутаркі канчаліся глыбокадумным: «пажывём — пабачым». І вось Андрэй, ды ня толькі ён, дачакаўся таго мамэнту, калі трэба было накіраваць сваё жыцьцё на якісь новы жыцьцёвы шлях, але ня бачыў, куды лепш кінуцца, за што ўхапіцца, каб не змарнець. Некалькі ягоных сяброў пастанавілі скарыстаць з стыпэндыяў для будучых настаўнікаў, некалькі багацейшых мяшчан разьлічвалі на бацькаўскую кішэню, а іншыя так апусьцілі галовы, як і Андрэй.

У папярэднія гады некалькі унівэрсытэцкіх стыпэндыяў давала павятовае староства, але ўжо вось другі год, як на няшчасьце, адтуль цяжка было штосьці атрымаць і актыўная калісь на школьнай ніве жонка паветавага старосты цяпер прыціхла.

Матурысты розьяджаліся дамоў паволі. І Андрэй гэтым разам не сьпяшаўся дамоў. Ён зьбіраў весткі аб розных вышэйшых навучальных установах, аб умовах студыяў, але нічога адпаведнага для сваіх жаданьняў і магчымасьцяў знайсьці ня мог. Напісаўшы пару лістоў да сваіх старэйшых сяброў, што ўжо былі студэнтамі, пастанавіў ехаць да хаты і чакаць да восені.

Разьвітаўшыся з сваім гарадзкім сябрам, які жыў недалёка ад акруговага суду, Андрэй паволі йшоў у бурсу. Трэба было йсьці пад гару па крутой вуліцы і ён крочыў спакваля, час-ад-часу перачытваючы вывескі на варотах. Вось кінулася ў вочы прозьвішча знаёмага адваката. Заўсёды бачыў яго на канцэртах, якія ладзіла Беларуская Гімназія. Такі мілы і ветлівы, ня дзіва, што яго людзі паважаюць і любяць. Андрэй ведаў ягоны жыцьцёвы шлях і адчуваў спэцыяльную сымпатыю да гэтага чалавека, бо быў так-жа як і сам сынам удавы. Калісь юнаком трапіў у Пецярбург і, працуючы сьлёсарам на фабрыцы, вечарамі вучыўся і здаў экстэрнам матуру. Далей бяз нічые помачы кончыў юрыдычны факультэт і вярнуўся на бацькаўшчыну, каб памагаць сялянам, абараняючы іх перад рознымі нахабнікамі. Адсьвяжыўшы ў памяці ягоны жыцьцяпіс, Андрэю раптам прышла шчасьлівая думка:

— Вось як трэба рабіць! Няма чаго апускаць галаву.

Падбадзёраны такою пастановаю, ён больш не разглядаўся па бакох, засьпяшаўся ў бурсу. Выходзячы на рынак на самым рагу вуліцы, ён чуць ня стукнуўся з якімсьці старэйшым панам, які так-жа кудысь сьпяшаўся.

— А, пане Протас, добры дзень! — прывітаўся сустрэчны.

— Добры дзень пану Пшыбыткоўскаму!

— Вось добра што вас стрэнуў. Чуў, што добра здалі матуру. Гратялюю, гратулюю!

— Дзякую.

— А вось ёсьць яшчэ адна здарэньне, аб якім вы бадай што ня ведаеце, а за якое вас варта так-жа пагратуляваць. Ваша вучаніца, Данута, прайшла ў сёмую клясу.

— Гэтага і трэба было спадзявацца.

— Гэта значыць, што ваша праца не пайшла на марна. Мы ўчора гутарылі аб вас, але думалі, што вы ўжо паехалі дамоў, а таму, што вы яшчэ ў Навагрудку, дык я запрашаю вас сёньня на вячэру да сябе. Там будзе так-жа двох маіх знаёмых з Варшавы.

— Дзякую шчыра і з прыемнасьцю скарыстаў-бы з запросін, але я якраз зьбіраюся ехаць дамоў.

— Як зьбіраецеся, ваш родны хто прыехаў?

— Не, я на сваёй двухколцы!

— Дык з гэткаю падводаю і пачакаць можаце, таму ніякага «але» ня прымаю. Вам дамоў няма чаго сьпяшацца і я вас запрашаю ад ўсяе нашае сям'і.

Андрэй бачыў, што пан Пшыбыткоўскі хоча нечым пахваліцца, магчыма варшаўскімі знаёмымі, і таму ад яго запросін выкруціцца нялёгка і нават няпрыемна, дык згадзіўся. Пры тым пацяшаў сябе: чаму не скарыстаць з нагоды добра павячэраць?! Аднак вечарам ішоў на «вялікапанскі банкет» вельмі неахвотна, бо быў упэўнены, што яго запрасілі няшчыра і за сталом будуць сачыць за кожным рухам, так што і ежа ў горла ня пойдзе. Калі зайшоў у салён Пшыбыткоўскіх, дык быў моцна зьдзіўлены, што яго прынялі зусім ня так, як спадзяваўся. І гаспадары і варшаўскія госьці былі вельмі ветлівыя бяз ніякае штучнасьці. Госьці адразу навязалі з ім гутарку быццам з старым знаёмым.

З гутаркі Андрэй даведаўся, што варшаўскія госьці былі ўраднікамі: адзін з міністэрства земляробства — ён цікавіўся беларускім лесам, а другі супрацоўнік Цэнтральнага этнаграфічнага музэю

— гэты меў на мэце папоўніць дзявятую салю гэтага музэю беларускімі тканінамі і вышыўкамі. Яны абодва, ня ў прыклад мяйсцовым польскім урадоўцам, гаварылі аб беларусах бяз прыхаванае злобы. Відаць, каб зрабіць ім прыемнасьць, пан Нішыбыткоўскі і запрасіў Андрэя на вячэру.

За сталом пасадзілі Андрэя між ягонаю вучаніцаю і ўрадаўцам з міністэрства земляробства Тадэушам Траецкім.

Перакінуўшыся некалькімі жартамі на тэму вячэры, раптам Траецкі спытаў Андрэя:

— Што вы думаеце рабіць далей?

— У тым цэлая бяда, што цяжка нешта талковае выдумаць.

— Я таму і пытаюся, што ўжо чуў ад пані Нішыбыткоўскае аб вашым палажэньні. Але хіба-ж вы будзеце старацца прадаўжаць навуку?

— Бязумоўна што так, толькі вось на перашкодзе стаіць шмат цяжкасьцяў, нямаведама ці ўсе іх удасца перамагчы.

— Пане Андрэю, — Траецкі перайшоў на фаміліярны тон — калі ў вас хапіла вытраваласьці перамагаць перашкоды да гэтага часу, дык чаму-б мела не ставаць на будучыню?! Кажуць-жа людзі, што Бог не дарма дае моладзі бурхлівую юнацкую сілу, але на тое, каб ёю карыстацца для ўладжаньня свайго жыцьця...

Андрэю зрабілася крыху ніякава, што яго суцяшаюць быццам нейкага лёгкадуха, які зьнявераўся ў сябе. Ён рашучым рухам палажыў лыжку на стол і, ня гледзячы на суседа, казаў:

— Так, гэта праўда, хоць і горкая.

— Ведаеце што, прыяжджайце да нас у Варшаву, там ёсьць шмат магчымасьцяў крыху зьменшыць тую горкасьць.

— Магчыма, але я там нікога ня ведаю, дык першыя крокі былі-б вельмі цяжкія.

— Але не зважаючы на гэта там вам будзе лягчэй уладзіцца чым дзе.

— А гэта чаму?

— Я вам скажу чаму. Вы толькі не падумайце, што з мяне кепскі польскі патрыёт, але праўды нельга схаваць; з вашаю нацыянальнасьцю у Варшаве, ці Пазнані шмат лягчэй знайсьці помач у студыях чым на вашых радзімых абшарах. Што тут доўга тлумачыць, так ужо было заўсёды ў шматнацыянальных дзяржавах.

— Шкода толькі што Варшава далёка, — ціха адказаў Андрэй і ледва ўстрымаўся, каб не дадаць, што яму немагчыма нават назьбіраць грошай на білет да Варшвы, але відаць Траецкі аб гэтым дагадаўся сам.

— Што значыць далёка ў цяперашнім зматарызаваным сьвеце?! Ведаеце што? Я вам магу нараіць добрую працу на некалькі тыдняў у лясьніцтве. Там зможаце зарабіць і на дарагу і на які месяц, другі на ўтрыманьне.

— За такую працу я вам быў-бы вельмі ўдзячны.

— Працадаўцам буду я, сам, але працаваць трэба будзе аж у Налібоцкай пушчы. Згода?

— Ведама што згода!

— Ну вось гэткім чынам і я скарыстаю і вы.

— Пане Траецкі — зьвярнуўся супрацоўнік з музэю але я так-жа маю інтэрас да пана Андрэя, хацеў-бы зрабіць з ім пару экспэдыцыяў у ваколічныя вёскі.

— Думаю, што і на гэта знойдзецца час, калі-б толькі была ахвота.

— О, на такія экспэдыцыі ў мяне ахвоты хоць адбаўляй! — усьміхнуўся Андрэй.

— Ага, пане Протас, — у гутарку ўмяшалася яго былая вучаніца — цяпер мы памяняліся палажэньнямі, у мінулыя гады падчас вакацыяў я працавала, а вы адпачывалі, цяпер я буду гуляць, а вы будзеце працаваць!

Усе прысутныя згодна засьмяяліся. Андрэй так-жа сьмяяўся і гледзячы сабе на рукі, пацірае пальцам далоні, на якіх штолета нарасталі вялікія мазалі, заўважыў:

— Вашае шчасьце, што гэтая замена вельмі-ж няпоўная...

Да канца вячэры пераважна жартавалі. На разьвітаньне Андрэй дамовіўся з Траецкім дзе і калі маюць спаткацца. Ідучы дамоў сам сабе паўтараў:

— Якая-б была вялікая страта, каб адмовіўся ад запросінаў і ніколі-б аб ёй ня ведаў. На будучыню трэба мець гэта на ўвеце і не ратазейнічаць.

Назаўтра папалудні Андрэй ужо быў удома. Пасьля першае прывітальнае радасьці маці пыталася яго з лёгкім дакорам:

— Што-ж ты там так доўга рабіў пасьля тых экзамінаў?

— Шукаў сьцежкі, каб неяк далей пайсьці.

Зося замест адразу спытацца «ці знайшоў?», боязка паглядзела на аблічча сына, каб вычытаць на ім вынікі пошукаў. Тымчасам у хату стралою ўляцела Аленка, крычучы замест прывітаньня:

— Андрэйка! — і кінулася брату на шыю. Маці скарыстала з маманту і хвартухом выцерла вочы. Аленка быццам у апраўданьне, што пакінула палоць лён і прыбегла дамоў, казала ні то да маці, ні то да брата:

— Я бачыла здалёк, як ты йшоў і адразу пазнала.

— Гэта-ж я тое ды сёе, а есьці дык і няма каб адразу дагадацца. — казала маці і кінулася да дзьвярэй, — Садзіся, сынок за стол, я зараз...

— А дзе-ж Габрусік, на пышы? — пытаўся Андрэй у сястры.

— Так, ён ужо сёлета зрабіўся вялікім пастухом.

Маці наставіла ежы на стале быццам на пяцёх чалавек і калі Андрэй перакусіў першы голад, спытала:

— Ты казаў, што сьцежкі шукаў, а ці знайшоў-жа што?

— Пакуль што знайшоў зачэпку, а там далей Бог-Бацька.

— Якую зачэпку?

— Маю добрую працу на некалькі тыдняў у Налібоцкай пушчы, дык зараблю, каб было з чым пачынаць. Удома я пабуду ўсяго два дні.

— Ах мая....! Усяго два дні! Дык ты-б хоць крыху адпачыў.

— Я ўжо нібы крыху адпачываў пасьля матуры.

— Добра: «адпачываў», гэткі благі зрабіўся і белы нібы і крыві ў цябе няма...

— — — — —

Вечарам у хаце ўдавы Зосі быў сапраўдны сьвяточны настрой, хоць гэта быў звычайны будны дзень. Акрамя хатніх і блізкіх родных, як дзядзька Сьцяпан з дзядзінаю, сусед Атанас, бабка Палагея, прышло яшчэ некалькі старабродзкіх гаспадароў у зосіну хату. Гэта-ж першы чалавек з іхняе вёскі сягнуў кудысьці ўвысь, як ніхто дагэтуль, дык як-жа не паглядзець на яго, ці зьмяніўся, ці не заганырыўся. Андрэй апавядаў аб настаўніках, аб экзамінах, аб сваіх сяброх і гэтая здавалася-б простая гутарка, так зацікавіла ўсіх, што нават бабка Палагея, у якое язык спыняўся толькі нанач, і тая слухала ўважна, каб не прапусьціць ніводнага слова і толькі час-ад-часу прыгаворвала сама сабе: «Вось як!», «Бачыш ты яго!». Выглядала быццам ў хату павеяў нейкі нябачны подых сьвежага паветра і людзі, якія задыхаліся да гэтага часу, удахылі яго з прагнасьцю і насалодаю. Крок упярод іхняга блізкага роднага яны перажывалі так, быццам самі яго зрабілі і захапляліся гэтым больш чым сам Андрэй. А найбольш цешыліся тым, што ён як быў, так і астаўся іхным. Позна вечарам пачалі гаварыць аб найбліжэйшай дарозе ў Налібакі, тады Андрэй маўчаў, слова перанялі старэйшыя.

**А. Жменя**

# Духовы голад

Ужо грэцкі паэт Гомэр казаў у «Одысэі», што «усе людзі маюць голад Бога», а хрысьціянскі філёзаф Тэртуліян (160-230) цьвярдзіў, што «душа чалавека з прыроды хрысьціянская». У нашых часох, калі зьявіліся ваюючыя бязбожныя арганізацыі, калі цэлыя дзяржавы ўвялі бязбожныя дзяржаўныя сыстэмы, і прынесьлі з сабою шмат цярпеньня, прынесьлі так-жа нязьлічаныя доказы на тое, як глыбокае ёсьць у людзкой душы жаданьне лучнасьці з сваім Сатварыцелем.

Між пісьменьнікаў зваўважана дзіўны факт: чым больш хтосьці бязбожны, тымбольш закранае ў сваіх творах Бога; відаць ён мусіць шмат гаварыць іншым супраць Бога, каб заглушыць голас свае душы, якая яму гаворыць аб Богу. З гэтага гледзішча было нямала глыбока ўзрушачых здарэньняў, калі ў гадох 1939-42 спаткаліся беларусы з усходняе часткі нашае бацькаўшчыны з сваімі суродзічамі з заходняе часткі. Вось дзьве сапраўдныя падзеі з тых часоў, якіх аўтар гэтых радкоў быў навочным сьведкаю.

---

На пачатку 1940 г. у адной з дзесяцігодак рухавага акруговага гораду Б. зьявіўся новы настаўнік. Зьмена настаўнікаў — самая звычайная падзея ў савецкім жыцьці і дзеля гэтага на яе ніхто не зьярнуў ніякае асаблівае ўвагі, хіба за выняткам энкавэдыстаў.

Новы настаўнік атрымаў памешканьне ў доме, дзе ўжо было шмат савецкіх служачых. Ягонымі суседзямі былі: дырэктар дзесяцігодкі з аднаго боку і ваенны пракурор з другога боку. У далейшых пакоях жылі: заўхоз аднае сямігодкі і настаўніца з тае-ж школы. У суседнім большым доме жыло каля дзесятка розных высокіх савецкіх урадоўцаў, як: дырэктар облторгу, раённы аграном, некалькі служачых з дзяржбанку, з чыгункі і інш.

Усе гэтыя людзі спатыкаліся з сабою рэдка і паводля савецкага звычаю былі маламоўнымі, дзеля гэтага і ведалі сябе вельмі мала. Але жаночая цікавасьць усюды астаецца цернная сваёй удачы. Маці настаўніцы з сямігодкі, якая ўставала звычайна вельмі рана, аднойчы была моцна зьдзіўлена, калі заўважыла, што новы настаўнік з дзесяцігодкі ўстае раней за яе. Гэта яшчэ было-б нічога, але некалькі дзён пасьля бабуся, як яе агульна называлі, зьнюхала, што з пакою настаўніка пахла васковымі сьвечкамі. Тут жаночая цікавасьць ня мела супакою, аж пакуль ня выявіла, што новы настаўнік ёсьць сьвятаром. Праз некалькі дзён жыхары дому глядзелі на настаўніка быццам на нейкае нябачнае дзіва:

— Настаўнік савецкае дзесяцігодкі і сьвятар, як гэта магчыма? — вось тое бясслоўнае пытаньне, якое можна было вычытаць у іхных позірках.

Пасьля такога «адкрыцьця» адносіны да настаўніка ня то што не пагоршыліся, але сталіся шмат больш чым прыязныя. Кожны з сужыхароў дому быццам шукаў нагоды, каб перакінуцца некалькімі словамі з настаўнікам і каб зрабіць яму

нейкую прыслугу. Калі аднойчы пасьля сьнеданьня настаўнік папрасіў бабусю зрабіць яму бутэрброд, бо ня ня зможа прыйсьці на абед, прысутная пры гэтым жонка пракурора кінулася да шкапіка, дзе былі харчы:

— Пазвольце, бабулька, я за вас зраблю гэта.

Падобныя сцэны былі даволі частымі. Калі нельга было чагосьці зрабіць для таго «настаўніка», дык проста хацелі хоць паглядзець на яго і ў тым позірку была такая смага душы, да крыштальначыстае крыніцы духовага жыцьця, якое ня зможа заглушыць ніякі тэрор. Няраз у сьвятару яны хацелі бачыць штосьці большае, чым ён быў у сапраўднасьці.

Жыцьцё йшло так некалькі тыдняў. Аж аднаго дня бабуся ціха ўвайшла ў пакой «настаўніка» і пасьля кароткага ўступу запыталася ледва чутным голасам:

— Ці можаце вы, войчанька, ахрысьціць дзеці пракурора?

— Чаму-ж не, калі ён згодзен.

— Згодзен, а як-жа. Заўтра якраз выхадны дзень...

Арганізацыя «контррэвалюцыйнага акту» — хрышчэньня дзяцей быццам зрадніла ў адну сям'ю ўсю жаночую частку жыхароў дому. Дзесь нават зьнікла жаночая языкатасьць і па-над ўсё запанавала жаданьне зрабіць дабро людзкой душы, услявіць Бога.

У назначаны час зрабілася ў доме нязвычайна ціха і спакойна. Пракурор, узяўшы пад руку жонку, пайшоў на «прагулку», а дзеці, сьвяточна апраненыя, асталіся дома. Як толькі за пракурорам зачыніліся дзьверы, кумы ўжо былі на мейсцы, а з пакою настаўніка выйшаў сапраўдны сьвятар, як потым казала бабуся. Завхоз і бабуся кінуліся яму да рук і пакінулі ха іх некалькі гарачых кропляў. Дзеці ня зводзілі вачэй з «дзядзюшкі» ў нязвычайнай вопратцы. Калі вада пацякла па галаве ў новахрышчанага раба Божага Мікалая, той хацеў быў заплакаць, але тут-жа яго супакоіла хрышчоная маці:

— Ня плач, дзетка, ты ўжо хрысьціянін і каталік.

Затое меншая раба Божая Вера адплакала і за сябе і за брата.

Праз якое паўгадзіны пасьля хрышчэньня пракурор з жонкай вярнуліся з прагулкі і ўсе хатнія заселі за сытна застаўленым сталом праўляць хрысьціны.

———

Некалькі дзён пасьля першага хросту падобным спосабам ахрышчана дзеці чугуначніка ў суседнім доме. Але там на пачастунку пасьля хрышчэньня быў дырэктар облторгу, які перад тым часта спаткаўся з «настаўнікам» каля радыёапарату падчас вячэрніх паведамленьняў і цяпер быў моцна зьдзіўлены, што ягоны добры знаёмы ёсьць каталіцкім сьвятаром.

Пасля такога выяўленьня штовечара, выслухаўшы апошнія весткі савецкага радыё, пачыналася гутарка між сьвятаром і дырэтарам. Дырэктар кончыў Маскоўскі Унівэрсытэт, нейкую ваенную школу і да таго прайшоў курсы палітграмты, дык савецкі бязбожны дух быў прышчэплены яму не абы як, і вось цяпер ён, стрэнуўшы чалавека зусім адменнага сьветапагляду, ня мог вытрываць, каб не распачаць гутарку на самую далікатную тэму: Бога і рэлігіі. Тыя гутаркі «настаўніка» з дырэктарам мелі нешта асаблівае. Гэта ня былі дыспуты, але сапраўдныя шчырыя гутаркі. І калі яны пачыналіся, а пачыналіся яны праз два тыдні амаль штовечара, дык усе жыхары дому стараліся быць пры іх і проста замяняліся ў слух. Інжынер аграном звычайна садзіўся дзесь у кутку і курыў люльку, ўрадоўцы дзяржбанку адчынялі дзьверы свайго пакою і садзіліся каля самых дзьвярэй — найчасьцей так, каб іх ня было відаць, а іхняя маці нечым займалася ў кухні, дзевьеры ў якую ніколі не зачыняліся, чыгуначнікі кожны раз мянялі мейсцы, толькі жонка дырэктара з пяцігадовую дочкаю чамусьці выходзіла ў свой пакой і там зачынялася.

У тых гутарках парушалася шмат тэмаў. Цяжка іх усе нават пералічыць. Найбольш што прыцягвала і паланіла слухачоў дык гэта быў спакойны прыязны тон і добрае знаньнё абодвымі субяседнікамі парушаных пытаньняў. Усе аргумэнты супраць рэлігіі, якія выказваў дырэктар, сьвятар разьбіваў так ясна і асноўна, што дырэктар, каб сябе не кампрамітаваць, стараўся пераходзіць на іншыя тэмы. Але калі ў далейшым не пачуў супраць сябе ніводнага зьневажаючага слова, стаўся больш шчыры і часам пасьля асабліва ўдалага выяўленьне недарэчнасьці дыялектычнага матэрыялізму, дырэктар сам кепкаваў над сабою, выклікаючы агульны сяброўскі сьмех прысутных.

Апошняя гутарка між імі, хоць і закранала ня вельмі цікавую тэму, але сталася найбольш цікаваю ў сваім заканчэньні.

Неяк няўпрыцям для самых субяседнікаў гутарка з эканамічнае тэмы пераскочыла на каталіцкіх місіянароў.

— Вось вазьмеце: місіянары, місіі — прыгожыя словы для замыльваньня вачэй наіўным, — гаварыў ажыўлена дырэктар — а ў сапраўднасьці дык гэта-ж слугі капіталістычных дзяржаваў для ўмацаваньня эксплаатацыі калаяніяльных краінаў.

---

**Госпад не жадае ад нас, каб мы дуб зразалі складанчыкам. Калі Ён жадае ад нас вялікіх учынкаў, тады мы знайходзім ў сабе такую сілу, аб якой раней нават і не дадумоўваліся.**

**Р. М.**

— Слугі, гэта праўда — спакойна адказваў сьвятар — але не капіталістычных дзяржаваў, бо яны працуюць перадусім для дзяржавы Божае і ўсё дзеля гэтага ахвяроўваюць.

— Але хіба-ж яны стаўшыся сьвятарамі не перастаюць быць патрыётамі?

— Пэўна што не перастаюць. Патрыётамі яны зразумела астаюцца і часта нават стаюцца большымі чым сьвецкія людзі, але не спалучаюць свайго патрыятызму з капіталістычным ладам, хоць гэта нікому не забаронена як прыватнае перакананьне.

— Добра, а як-жа па вашаму назваць паводзіны італьянскіх місіянараў у абісінскай вайне, іхняе шпіцляваньне і выкраданьне плянаў?

— Выясьніць можна проста, што калі-б нават і сапраўды было супрацоўніцтва італьянскіх місіянараў з войскамі Мусаліняга, дык гэта было-б супрацоўніцтва не з капіталістамі, а з фашыстамі — гэта адно, а другое — ведаеце самі, што няма правіла без вынятказ. Вы вось у радох камуністычнае партыі колькі мелі розных зраднікаў, якіх выкідалі падчас чыстак, дык чаму ў радох каталіцкіх сьвятароў ня можа быць нягодных людзей?! А па трэцяе — ведаеце, што ў часе вайны пад сьвятарскую вопратку хаваюцца розныя шпіёны і агенты і Бог ведае хто. Магчыма вы чулі, што ў прыродзе ёсьць цікавае зьвішча, якое называецца мімэтызм. Распаўсюджана яно між слабых і безбаронных жывёлаў, якія вонкава прыймаюць форму мацнейшых і добра азброеных жывёлаў; напрыклад некаторыя віды мухаў маюць вонкавы выгляд восаў і праз гэта маюць менш ворагаў. Штосьці падобнае робяць прадстаўнікі дачаснае ўлады і ваенныя агенты, калі змушаны шукаць больш надзейнае ахароны — тады няраз апранаюць вопратку місіянараў, нясьведама выказваючы такімі паводзінамі веліч сьвятарскага і асабліва місіянэрскага стану. Нават і камуністычныя дзеячы часам апранаюцца ў сьвятарскую вопратку.

— Ну, гэта толькі на вельмі кароткі час.

— Ня важна на які час, важна што такія факты здараюцца і ўсе яны сьведчаць аб веліччы сьвятарскага стану.

— А хіба вы думаеце, што змагары за камунізм ня маюць велічных постацяў?! Колькі іх ахвяравала сваё жыцьцё за свае ідэалы і колькі цяпер працуе з поўным самазапярэчаньнем!

— Бязумоўна яны маюць сваю веліч, але між імі і каталіцкімі місіянарамі ёсьць істотная розьніца . . .

На хвіліну гутарка спынілася. У пакой убегла дачушка дырэктара, ускочыла яму на калені, адною рукою яна абняла яго за шыю, а другою намагалася пачаставаць бацьку пячэнем.

— Пакуштай, бацька, ты адно пакуштай, якое яно смачнае.

— Добра, вельмі смачнае, але ты, дачушка сядзі ціха. — І зьвяртаючыся да сьвятара, прадаўжаў. — Якая-ж тая розьніца?

— Розьніцаў ёсьць некалькі. Каталіцкія місіянары йдуць на місіі зусім дабравольна і бяз задняе думкі здабыць сабе славу ці почасьці. Спанукаю да гэтае працы, маецца на ўвеце найважнейшая спанука, ёсьць не якісьці людзкі загад, але загад Божы: «Ідзеце навучайце ўсе народы». Выконваюць гэты загад з поўным самазапярэчаньнем, складаючы на аўтар разам з бяскроўнаю ахвяраю ўсе свае найдалікатнейшыя людзкія пачуцьці, ахвяроўваючы сябе самых. Вам хіба ня трэба тлумачыць, што каталіцкія сьвятары гэта людзі, як і ўсе людзі. У іх сэрцах, як у сэрцы кожнага нармальнага здаровага чалавека тліцца заўсёднае жаданьне, мець тыя дробныя хвіліны шчасьця, якія прыносіць любячае сэрца блізкае асобы, сямейнае цяпло; аднак міма гэтага яны ўсё жыцьцё астаюцца бязжэннымі. Вам вось прыемна пасьля цэлядзеннае працы слухаць шчэбят роднага дзіцяці, адчуваць цяпло сямейнага вогнішча. Каталіцкія сьвятары маюць так-жа такія жаданьні, аднак дзеля любові Бога і бліжняга ахвяроўваюць усё гэта так мілае і жаданае для збаўленьня людзкіх душ...

Пры апошніх словах сьвятар значна ажывіўся, а дырэктар наадварот, адною рукою прытуліў мацней дачушку, а другою пачаў распраўляць свае валасы. Відаць было, што словы сьвятара трапілі ў нейкае асабліва чулае мейсца і зрабілі большае ўражэньне чым найбольш пераконваючыя доказы.

— Вось гэтага я ня ведаў ... я мушу падумаць аб гэтым, — гаварыў дырэктар, ня гледзячы на нікога.

Настала хвіліна моўчанкі. Аграном устаў з свайго кутка і накіраваўся да выхаду. Прайходзячы каля дырэктара, заўважыў:

— Падумай яшчэ аб тым, што кожны нармальны чалавек, калі ня ўблытаецца па вушы ў нейкую брудную твань, астаецца богашукальнікам, толькі ня ўсе шукаюць Бога там, дзе трэба.

Больш дырэктар ня сустракаўся з сьвятаром, але ад таго вечару стаў маламоўным і па некалькі тыднях выехаў у няведамым кірунку. Сьвятар так-жа нядоўга аставаўся ў горадзе.

**Т. Малько**

---

**Да Бога ёсьць толькі дарогаў, колькі ёсьць людзей.**

**П. Л. Сімэр**

# Праўды не схаваеш

Ужо 38 гадоў бальшавіцкая ўлада гядзе змаганьне з рэлігіяй. За гэты час выдана тысячы бязбожных кнігаў, выдаваліся дзесяткі бязбожных часапісаў мільённым тыражом, чыталіся нязьлічаныя бязбожныя даклады, у школах усе прадметы выкладаліся і выкладаюцца ў ваяўнічым бязбожным духу, вялося страшэннае адміністратыўнае праследаваньне духавенства і вернікаў, зачыняліся і руйнаваліся сьвятыні — і міма гэтага ўсяго цяпер, як і калісь савецкая прэса часта наракае на жывучасьць рэлігіі і на розныя недахопы ў бязбожнай прапагандзе.

У імя чаго вялася і гядзецца ўся бязбожная прапаганда? Бязбожнікі кажуць быццам у імя поступу і навукі. Але недарэчнасьць такога цьвярджаньня аж лішне ясная, каб яе можна было схаваць нават у савецкай жудаснай атмасфэры хлусьні. Ніякая прапаганда ня можа зьмяніць таго факту, што сапраўды перадавыя вучоныя і калісь і цяпер у аграмаднай большасьці былі і ёсьць веруючымі людзьмі, а сучасная навука адкрывае ўсё новыя факты на карысьць згоднасьці навукі і рэлігіі. Усё гэта вельмі недаспадобы бальшавіцкім бязбожным агітатарам і яны замест таго, каб шчыра успрыняць праўду, ад пару гадоў вядуць агідную лаянку супраць сапраўднае навукі. Як звычайна, усё што для іх няпрыемнае, бальшавікі стараюцца закрыць ад народу, да гэтага яны карыстаюцца слоўным круцельствам: пад словам «перадавая навука», яны прызнаюць толькі дыялектычны матэрыялізм, а «перадавымі вучонымі» прызнаюць толькі сваіх вучоных, сапраўдных-жа вучоных ганьбяць у найбольш агідны спосаб. І вось гэтае ганьбленьне сапраўднае навукі ёсьць найлепшым выявам поўнага банкроцтва бязбожнае прапаганды.

У савецкай прэсе ад пару гадоў зьявілася шмат нападаў на заходнеэўрапэйскіх вучоных за іхнюю рэлігійнасьць. Няма патрэбы пераказваць усяе гэтае пісаніны, абмяжуемся толькі тым, што нас найбольш цікавіць; тым што адносна закранаё тэмы піша савецкая беларуская прэса. «Звязда» з 11. IV. 1952 г. у артыкуле праф. Баскіна «Філёсофскія цемрашалы на службе амэрыканскага імпэрыялізму» выказвае абурэньне на амэрыканскіх вучоных за тое, што «займаюцца скрытай або адкрытай прапагандай тэалягічнага цемрашальства». Тая-ж газэта з 12 сакавіка 1952 г. у артыкуле праф. Канстанцінава «Аб значэньні ваюючага матэрыялізма» між іншым кажа: «Буржуазія і яе вучоныя лякеі ў прафэсарскіх мантыях ставяць буржуазную навуку на службу рэлігіі і папоўшчыне». У тым-жа духе, але яшчэ больш выразна піша В. Разін у той-жа газэце з. 1-га ліпеня 1952 г. у артыкуле «Матэрыяльнасьць сьвету і заканамернасьці яго разьвіцьця»: «Ломка старых папяцьцяў выклікала замяшаньне сярод фізікаў і прывяла некаторых з іх у балота ідэалізма... Лідэр амэрыканскіх пэрсаналістаў Флюелінг заяўляе, што Бог — вышэйшая асоба».

У той-жа газэце 16. IV. 1953 г. А. Карлюк у артыкуле ««Фізычныя» ідэалісты ворагі сапраўднае навукі» нападае на амэрыканскіх і ангельскіх вучоных за тое, што яны будучы вучонымі «ператварыліся ў рупары рэлігійнае прапаганды». У 1954 г. Акад. Нав. БССР выдала кнігу таго-ж Карлюка ў расейскай мове «Реакционная сущность «физического» идеализма», якую самая-ж бальшавіцкая прапаганда назвала «Незадачная книга по философским вопросам физики» («Советская Белоруссия» 1. 2. 1954).

Больш яшчэ чым тэарэтычна-навуковыя пытаньні цікавяць бальшавікоў практычна-сацыяльныя пытаньні. І тут савецкая бязбожная прапаганда лютуе ад абурэньня на каталіцкі сацыяльны рух. Тая-ж «Звязда» з 8 кастрычніка 1953 г. апублікавала артыкул праф. Гагарына «Маразм сучаснай амэрыканска-ангiйскай буржуазнай сацыялёгіі», у якім для большае эфэктоўнасьці і баламуцтва мяшае праўду з фальшам, лаянку з навуковай тэрміналёгіяй. Асабліва востра аўтар накідваецца на хрысьціянскіх сацыялістаў і Ватыкан. Моцна непадабаецца бальшавіком, што «Другія ідэолёгі імпэрыялізма аб'яўляюць адзінай рухаючай сілай гісторыі — Бога» (Трэба мець на ўвазе, што бальшавікі называюць «імпэрыялістамі» усіх тых, што выступаюць супраць сапраўднага расейскага імпэрыялізму).

Ува ўсёй сваёй бязбожнай прапагандзе бальшавіцкія агітатары да гэтага часу цьвярдзілі, быццам іхняя «навука» выясьніла, або вось-вось выясьніць усе тайны прыроды. Цяпер-жа, калі асягненьні навукі і адкрыцьці ўсьцяж збольшваюцца, ганырысты тон бязбожнае прапаганды часам зьніжаецца і зьяўляюцца нясьмелыя прызнаньні, што з выясьненьнямі ня ўсё ў парадку. Так А. Масевіч у артыкуле «Аб паходжаньні зямлі і іншых плянэт» («Звязда» 24. 2. 1955) між іншым кажа, што ў іхняй тэорыі аб паходжаньні зямлі і плянэт «ёсьць яшчэ рад **істотных цяжкасьцяў**, ёсьць многа нявырашаных пытаньняў, над якімі ўзмоцнена працуюць савецкія касмаганісты». І хто можа ведаць, да якіх вынікаў яны дойдуць, калі будуць мець хоць крыху свабоды ў сваіх досьледах?

Наагул сучасная савецкая бязбожная прапаганда дае нязьлічаныя доказы, што самыя-ж бязбожныя верхаводы і агітатары бачаць фальшывасьць сваіх цьверджаньняў, але ня хочуць успрыняць праўды праз сваю засьлепленасьць і хваравілівую гордасьць. Аднак праўда, як аліва, раней ці пазьней, але выплыве наверх.

# НА РЭЛІГІЙНАЙ НІВЕ

### ЁСЬЦЬ НАТУРАЛЬНАЕ ПРАВА ДЛЯ ЎСІХ ЛЮДЗЕЙ І НАРОДАЎ.

Сябры Цэнтру Міжнароднага Аб'еднаньня і Супрацоўніцтва мелі сёлета ў кастрычніку сваю чарговую зборку ў Рыме, пасьля якое былі прынятыя Сьвяцейшым Айцом Піем XII на спэцыяльнай аўдыенцыі. Прамова Сусьветнага Архірэя да сяброў Цэнтру мае вялікае значэньне для ўсіх людзей і перадусім тых, што займаюць адказныя становішчы. Сьвяцейшы Айцец у сваёй прамове падчыркнуў, што «першым пастулятам усякае пацыфікацыйнае акцыі ёсьць прызнаньне прыроднага права, якое забаваязвае ўсіх людзей і ўсе народы». Такімі натуральнымі правамі ёсьць: «права на існаваньне, права на карыстаньне з земскіх добраў для захаваньня жыцьця, права рэспэкту добрага імені свайго народу, права разьвіцьця і пашырэньня народу». Самая-ж пацыфікацыйная дзейнасьць павінна апірацца на дабразычлівасьці і любові. Толькі любоў можа апанаваць нацыянальны эгаізм і прынесьці ў сьвет мір. Да любові і дабразычлівасьці мусіць яшчэ дайсьці праўда. Тады ўсе народы сьвету пойдуць да сапраўднага паеднаньня.

### ЗЬЯЎЛЕНЬНЕ ІСУСА ХРЫСТА СЬВЯЦЕЙШАМУ АЙЦУ.

Уся пэрыядычная прэса вольнага сьвету ў сьнежні месяцы падала вестку аб тым, што падчас цяжкое хваробы Сьвяцейшага Айца Пія XII у найбольш крытычны дзень хваробы 2.XII.1954 г. яму зьявіўся Хрыстос. Ніякіх аб'яўленьняў падчас зьяўленьня ня было, але яно прынясло хуткае аздараўленьне Сьвяцейшага Айца.

### ЦАРКВА І ЦЫВІЛІЗАЦЫЯ.

Французкія Тыдні Каталіцкіх Інтэлектуалістаў ужо сталіся традыцыяю. Сёлета такі Тыдзень адбыўся ў Парыжу 13-20 лістапада на агульную тэму «Царкв і цывілізацыя». Усе закранёныя тэмы былі апрацаваны зьмястоўна і глыбока, выклікаючы вялікае зацікаўленьне ў шырокіх крухох парыжан. Вялікая саля Мютюалітэ штодня была запоўнена слухачамі.

### 500-ЫЯ ЎГОДКІ РЭГАБІЛІТАЦЫІ СЬВ. ЖАННЫ Д'АРК.

Доля вялікіх сьвятых часта была вельмі зьменнаю. Жыдоўскіх прарокаў забівалі самыя-ж жыды і хрысьціянскіх сьвятых вельмі часта мучылі і забівалі, як злачынцаў, іхныя-ж суродзічы. Так было і з сьв. Жаннаю з Арк. Яе суд францускіх біскупаў у 1431 г. засудзіў на спаленьне, як ведзьму. Толькі ў 1456 г. на просьбу маці сьв. Жанны адбыўся ў Парыжу рэгабілітацыйны суд біскупаў, пасьля якога распачаўся бэатыфікацыйны, потым кананічны працэс, які кончыўся толькі ў 1920 г. Сёлета ў парыскай катэдры Нотр Дам, дзе 500 гадоў таму адбываўся рэгабілітацыйны працэс, адбываліся вялікія ўрачыстасьці для ўшанаваньня сьв. Жанны, якая зьяўляецца адною з патронкаў Францыі.

### РАСАВАЯ ЗМАГАНЬНЕ.

У некаторых штатах ЗША яшчэ глыбока закарэнёны расавыя ўпярэджаньні, і ня раз даюць сябе моцна адчуваць у грамадзкім і рэлігійным жыцьці. Напрыклад у Новым Орлеане, калі ў парахвію сьв. Цэцыліі быў назначаны чорны сьвятар, дык знайшлася група парахвіян — ачмурэлых белых расістаў, якія не дапусьцілі сьвятара адпраўляць у сьвятыні Службу Божую. У адказ на такія ўчынкі парахвіян, якія сваімі паводзінамі, сваею расаваю варажнечаю ганьбяць імя хрысьціяніна, мясцовы біскуп Я. Э. Руммэль кінуў інтэрдыкт на парахвію сьв. Цэцыліі, пакуль яе парахвіяне не зразумеюць, асноўных праўдаў хрысьціянства, што Хрыстос прынёс збаўленьне для ўсіх людзей, за ўсіх аднолькава праліў сваю кроў, усе мы зьяўляемся братамі ў Хрысьце, таму для хрысьціян ня можа быць ніякіх расавых розьніц.

### АЎТАКЕФАЛІЯ НА МАСКОЎСКІ ЛАД.

У Чэхаславаччыне да 1949 г. было ўсяго 150.000 праваслаўных. У 1950 г. былі сіламоц «навернены» на праваславіе грэка-каталікі — каля 300.000 чалавек. І для гэтае групы людзей за ка-

роткі час было хіратанізована аж 5 япіскапаў і адзін прысланы проста з Рассі яшчэ ў 1946 г. Разбудаваўшы штучна ерархію, Маскоўскі Патрых 23.XI.1951 г. абвесьціў аўтакефалію Чэхаславацкае Праваслаўнае Царквы і дамагаўся ад Бізантыйскага Патрыярха прызнаньня тае аўтакефаліі. Але як ў сапраўднасьці выглядае аўтакефалія з рук Маскоўскага Патрыярха, выказалі наглядна далейшыя падзеі. Уканцы 1955 г. мітрапаліт і галава Чэхаславацкае Прав. Царквы Елевферый Воронцов быў пакліканы ў Маскву і там «зрокся» кіраўінцтва чэхаславацкае Царквы і быў назначаны Ленінградзкім мітрапалітам. Таксама быў прыкліканы ў Маскву Прашэўскі яп. Алексей Дехтяров (быўшы царскі паліцэйскі ў Перме) і назначаны кіраўніком Віленскае епархіі. Цяпер Чэхаславацкая Прав. Царква асталася без кіраўніка.

### ПАСЬЛЯ 11-і ГОД ТУРМЫ.

«Журнал Моск. Патр.» быў коратка зацеміў, што ў чэрвені 1955 г. якісьці арх. Сімон тымчасова назначаецца кіраўніком Днепрапятроўскае епархіі, а ў Нр. 11 таго-ж часапісу зьявілася зацемка ў хроніцы: «Назначыць часова кіруючага Днепрапятроўскаю епархіяю арх. Сімона (Іваноўскага) архіяпіскапам Віньніцкім і Брацлаўскім». Прозьвішча архіяпіскапа кажа што гутарка йдзе аб калішнім ерарху Украінскае Аўтаномнае Царквы што ў гадох 1942/44 займаў Чарнігаўскую епархію і астаўся на бацькаўчыне ды быў арыштаваны бальшавікамі ў 1944 г. і сасланы ў Краснаярскі край. У 1951 г. была нават зьявілася вестка ў некаторых украінскіх газэтах, што ён памёр на ссылцы. Аб тым дзе быў арх. Сімон да гэтага часу «Ж.М.П.» нічога ня кажа, як ня кажа аб долі іншых ерархаў, што былі арыштаваныя разам з ім.

### МНОГАЗНАЧНАЕ ПРЫЗНАНЬНЕ.

Маскоўскі патр. Аляксей, перадаючы архірэйскі жэзл новапастаўленаму яп. Сяргею, што некаторы час быў у Палестыне і Бэрліне, а потым стаўся манахам, між іншым казаў: «Мы знаем з гісторыі Царквы, што былі сьвятаслужыцелі, якія бяз шчырасьці і ўвагі прынялі дар ласкі, гэтую асьвячаючую заруку, што ім перадавалася ў сьв. Тайне, і не захавалі яго цэлым і непашкоджаным. Гэта прывяло шматлікіх да таго, што яны адступіліся ад праўды, страцілі Божы страх і іх асабістае жыцьцё сталася нягодным іхняга прызваньня. І ў нас, у нашай Царкве, мы былі сьведкамі нават адпаданьня ад Царквы шматлікіх слабых духам сьвятаслужыцяляў, якія ня трэлі дару Божага, адкінулі ласку і пасаромілі добрае імя служыцеля Божае Царквы. Я гавару аб гэтым жалюгодным зьявішчы дзеля таго, каб напомніць пастырам Царквы аб іх абавязку грэць Божы дар». Гэта першы раз Маскоўскі Патрыярх адважыўся на такое прызнаньне.

### НОВЫЯ БІСКУПЫ Ў ЛЕТУВЕ.

Афіцыяльная савецкая агэнцыя ТАСС паведаміла з Масквы, што 11-га верасьня ў панявежаскай катэдры адзіны летувіскі біскуп на волі, Я. Э. Казімер Палтарокас высьвяціў двох новых каталіцкіх біскупаў: Я. Э. Пятра Назіяліса для Тэльшанскае дыяцэзіі і Я. Э. Юлія Стэнавічыюса для Сьвеньцянаў. Тая-ж агенцыя зазначыла, што сьвячаньні адбыліся згодна з адпаведнымі інструкцыямі з Ватыкану.

### ПРАСЬЛЕДАВАНЬНЕ КАТАЛІЦЫЗМУ Ў КІТАІ ТРЫВАЕ ДАЛЕЙ.

У Кітаю апошнім часам узмоцніліся арышты тых нешматлікіх ерархаў і сьвятароў, якія яшчэ асталіся на волі. На пачатку верасьня (у ноч з 8 на 9) ў Шанхаю арыштована Я. Э. Цьюнг-Пэн-Мэі шанхайскага біскупа, яго сакратара, усіх парахаў шасьці шанхайскіх каталіцкіх парахвіяў і амаль усіх прафэсароў сэмінарыі — разам 22 сьвятароў. Да таго між 8 і 20 верасьня арыштована каля 300 больш актыўных вернікаў. Арышты суправаджаліся вострымі супрацькаталіцкімі нападамі камуністычнае прэсы.




### НА МІЖНАРОДНАЙ НІВЕ

● Між 12-15 верасьня адбываўся ў Кэнігштайне каля Франкфурту пяты міжнародны кангрэс **«Царквы ў бядзе»** («Kirche in Not») на агульную тэму «Бальшавізм, як эрзацрэлігія». Названая тэма была асьветлена шыроко і ўсебакова спэцыялістамі навукоўцамі. Акрамя таго прадстаўнікі ўсіх нацыянальных групаў, якія ўдзельнічалі

ў Кангрэсе, мелі кароткія паведамленьні аб становішчы рэлігіі ў сваіх краінах. Ад імя беларусаў выступаў галоўны беларускі душпастыр у Нямеччыне а. Уладыслаў Салавей.

● За кароткі час свайго існаваньня т. зв. **Парыскі Блёк** стаўся даволі ведамаю арганізацыяю, якая паволі разрастаецца. Між 7-12 кастрычніка ў Мюнхэне прадстаўнікі народаў, удзельнікаў Парыскага Блёку, мелі сваю чарговую канфэрэнцыю, на якой прынята новы статут і выбрана кіраўнічыя органы. Старшынстваваў на Канфэрэнцыі беларускі прадстаўнік.

● У Ольдэнбургскай акрузе Нямеччыны ёсьць яшчэ цімала чужынцаў. Стараньнем ІМКА 26 кастрычніка ў Ольдэнбурзе быў наладжаны **«Вечар нацыянальнасьцяў»**, на якім разам з прадстаўнікамі ад: беларусаў, латышоў, летувісаў, палякаў, расейцаў і эстонцаў выступалі так-жа ангельцы і немцы. Выступленьне ведамага беларускага кампазітара А. Карповіча агульна ацэнена як вельмі ўдалае і рэпрэзэнтатыўнае.

## БАЦЬКАЎШЧЫНА

### Перамяшчаньне савецкіх праваслаўных ерархаў

Уканцы 1955 г. загадам Маскоўскага Патрыярха вікарны менскі япіскап Мітрафан перанесены ў Арол. Гэткім чынам на ўсю БССР астаўся зноў толькі адзін савецкі ерарх мітр. Піцірым. Пустуючая ад 1952 г. Віленская праваслаўная епархія часова даручана яп. Аляксею Дехтярову, які нядаўна быў пакліканы назад у СССР з Чэхаславаччыны.

### Дэкада беларускае культуры ў Польшчы

Ад 30 верасьня ў Варшаве і большых польскіх гарадох адбываліся беларускія канцэрты, прэдстаўленьні і выступы беларускіх пісьменьнікаў з БССР, шырока рэклямаваныя ў прэсе і радыё, як дэкада беларускае культуры.

### Зноў клясы і касты

Каставасьць сучасных савецкіх верхаводаў ужо, відаць, перарасла нават найбольш дзівосныя формы, якія ведамыя былі да гэтага часу ў сьвеце і савецкія пісьменьнікі атрымалі заданьні, весьці з імі барацьбу. Ар. Маўзон між іншым у драме «У ціхім завулку» мае такі дыялёг на гэтую тэму:

Тацяна Андрэяўна: Вось, вось... як падумаю, што Лёначка паедзе адсюль ды пакахае там якога-небудзь студэнта — **учарашняга калгасьніка, ці рабочага**, — у мяне валасы дыбам.



**Езуіцкі касьцёл у Пінску. Від з рынку ў 1939 г.**

Зарудны (сьмяючыся): Бач ты... А сама каго пакахала.

Тацяна Андрэяўна: Тады час быў іншы...

### Савецкае школьніцтва

У 1955 г. скончыла ў БССР дзесяцігодкі 51.352 чалавекі, але з іх 15.000 пайшло ў фабрыкі і калгаспы. Такія мерапрыемствы савецкае школьнае палітыкі выклікаюць вялікае незадаволеньне ў радох моладзі і таму савецкі ўрад распачаў фармальны паход супраць моладзі. У мінулым годзе яе масава вывозілі на цаліну ў Казахстан, сёлета вывозяць у Сібір і ў Донбас. А з другога боку савецкая прэса атрымала баявую задачу ўслаўляць тых дзесяціклясьнікаў, якія працуюць на фабрыках і ў калгасах. На гэтую тэму зьявіліся шматлікія артыкулы ў савецкіх беларускіх пэрыёдыках. «Зввязда» з 22. X. 55 хваліцца: «Амаль у цэнтры Віцебску знайходзіцца завод элекгравымяральных прыладаў. Ён пабудаваны нядаўна і рахуецца адным з самых маладых прадпрыемстваў нашае рэспублікі. Калектыў гэтага заводу ў асноўным складаецца з моладзі, якая кончыла сярэдную школу». У іншым нумары з 22. XII тая-ж газэта ўслаўляе камсамолку Ніну Касько, якая «ў мінулым годзе скончыла Казлоўшчынскую сярэднюю школу і засталася працаваць звеньнявой у сваёй роднай сальгасарцелі», дабілася вялікіх посьпехаў і за кароткі час атрымала сем тысяч лістоў з пахваламі. Малады пісьменьнік Т. Хадкевіч піша для піянераў у «Бярозцы» Нр. 12, як ён радаваўся, убачыўшы на заводзе дзесяціклясьнікаў і дадае: «Я шмат сустракаў... на заводах, фабрыках, новабудоўлях, і ў вёсцы — у калгасах і МТС юнакоў і дзяўчат, нядаўных школьнікаў, якія, ня цураючыся любой працы, знайходзяць у ёй нявычарпальныя магчымасьці для выяўленьня сваіх здольнасьцяў, радасьці, характва, своеасаблівую паэзію, шукаць і адкрываюць новае».

Уся гэтая напорная кампанія апраўдваецца патрэбаю належнага узгадаваньня моладзі, каб з савецкіх школаў ня выходзілі зьвіхнёныя белаҏучкі і гультаі. Аргумэнт — зусім слушны, але ў сапраўднасьці ёсьць іншая прычына, якая выклікае ўсю гэтую кампанію і аб якой ні словам не заікнецца савецкая прэса, бо ёю ёсьць жаданьне савецкіх верхаводаў зарэзэрваваць для свайго патомства цёплыя мейсцы, а калгасьнікам і работнікам абмежаваць выхад з вёсак і фабрыкаў.

## Зьменшаньне ВНУ і скарачэньне штатаў

Ў мінулыя гады пры кожнай нагодзе беларуская савецкая прапаганда называла лік вышэйшых навуковых устаноў у БССР — іх мела быць 30. Сёлета ў ніводным артыкуле аб школьніцтве не падавалася колькасьці вышэйшых навучальных устаноў. Прычыну такое моўчанкі можна было выясьніць толькі ўканцы году, калі ў газэтах падаваліся абвесткі аб наборы студэнтаў на новы акадэмічны год. І вось выявілася, што чатыры пэдагагічныя інстытуты зьліквідавана у зьвязку з ліквідацыяю вобласьцяў. Прынагадна даведваемся, што ў некаторых ВНУ пачалося скарочаньне штатаў. Напрыклад «Советская Белоруссия» з 25. XII. у фэльетоне «За чашкой чая» апавядае аб бясчынствах, якія творацца пры скарачэньне навуковых кадраў у Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце.



**Краявіды Палесься. Піна летам.**

### Бязбожная прапаганда

Апошнім часам у савецкай прэсе артыкулы з бязбожнаю прапагандаю і справаздачы аб бязбожных лекцыях зьяўляліся радчэй як перш і з гэтае нагоды «Советская Белоруссия» з 20. X. у перадавіцы міжвольна зрабіла важнае прызнаньне, што ўся бязбожная прапаганда ў Беларусі ёсьць штучнаю **кароткачасоваю кампаніяю.** Яна піша: «Важнае места ў ідэалягічнай рабоце займае атэістычная прапаганда. Шматлікія партыйныя арганізацыі дапушчаюць вялікую памылку, ператвараючы яе ў кароткачасовую кампанію. Кроўны абавязак партыйных арганізацыяў — штодзённа займацца прапагандаю матэрыялістычнага сьветапогляду». Камэнтарыі да гэтага прызнаньня лішнія.

## АЎСТРАЛІЯ

### Беларуская школа ў Мэльбурне

Сёлета адчынена ў Мэльбурне першую беларускую пачаткавую школу ў Аўстраліі. У ёй навучаецца 25 дзяцей пад кіраўніцтвам настаўніка А. Жураўлевіча. Дай, Божа, больш такіх беларускіх установаў на эміграцыі!

## БЭЛЬГІЯ

### Другія адведзіны Я. Эм. Кард. Тіссэрана беларускіх студэнтаў

Інтэрнацыянальны Цэнтр Агульнае Дыялектолёгіі пры Люгэнскім Унівэрсытэце выдаў сёлета два вялікія томы працаў і артыкулаў Я. Эм. кардынала Тіссэрана. Перадача твораў высока шаноўнаму аўтару мела ўрачысты характар і адбылася 28 лістапада ў вялікай унівэрсытэцкай салі. На наступны дзень дастойны госьць наведаў Дом беларускіх студэнтаў, гасьцінна вітаны сябрамі Бэльгійска-Беларускага Камітэту і беларускімі студэнтамі.

### Абсальвэнты

У 1955 г. шэсьцёх беларускіх студэнтаў закончылі свае студыі ў Лювэнскім Унівэрсытэце і абаранілі магістэрскія дыплёмныя працы: Арцюх Мікола — мгр. камэрцыйных і фінансавых навук, Галоўка Мікола — мгр. агранамічных навук, Савёнак Зора — мгр. хэмічных навук, Цімафейчык Тодар — мгр. палітычных і адміністрацыйных навук, Шчэцько Васіль — мгр. палітычных і адміністрацыйных навук, Ягоўдзік Мікола — мгр. палітычных і сацыяльных навук. Да таго леташні абсальвэнт Вітаўт Кіпель абараніў дактарскую працу з выдатным вынікам. Новыя маладыя кадры інтэлігэнцыі, хоць яны і нешматлікія, але ў эміграцыйных умовах зьяўляюцца вялікім і паважным здабыткам для беларусаў. Прыспарай, Божа, у далейшай працы новым абсальвэнтам!

## ІТАЛІЯ

### Новы беларускі сьвятар

Сёлета сапраўды выняткова год для беларускае эміграцыі — ужо другі беларус атрымаў сьвятарскія сьвячаньні — гэта айцец Янка Садоўскі. Ягоны жыцьцёвы шлях меў нямала цяжкіх перашкодаў. Нарадзіўся 15 ліпеня 1926 г. у Залужы Стаўлецкага павету. Першую асьвету атрымаў у роднай вёсцы. Ваенныя падзеі на некаторы час навуку перарвалі. У гадох 1942/45 прайшоў рады беларускае маладняцкае арганізацыі, потым рады андэрсаўскае арміі і знайшоўся ў Лёндане. У 1948 г. здаў матуральны экзамін пры Лёнданскім унівэрсытэце і паехаў у Рым здабываць духоўную асьвету. Там філязафічны факультэт скончыў у дамініканскім Унівэрсытэце — Анжэлікум, а на багаслоўскі факультэт перайшоў у Ґрэґорыянум. Атрымаўшы ад Апостальскага Візітатара для беларусаў інкардынацыю ў Менскае біскупства, быў высьвячаны 17 сьнежня 1955 г. у капліцы Францускае Калегіі Я. Э. Рэнатам Фонтэнэль — віцэсэгршынёю Галоўнае Рады для пашырэньня веры.

Айцец Я. Садоўскі у далейшым мае намер спэцыялізавацца ў біблійных студыях. Пажадаем яму плённае працы.

## ФРАНЦЫЯ

### 10-годзьдзе АБРФ

У лістападзе 1955 г. споўнілася 10 гадоў існаваньня Аб'яднаньня Беларускіх Работнікаў у Францыі як Беларускае Сэкцыі Францускага Сындыкату Хрысьціянскіх Работнікаў. Гэтую дату беларуская калёнія ў Францыі азначыла 13 лістапада. Раніцаю таго дня была адпраўлена ўрачыстая Служба Божая. Сябры Аб'яднаньня і госьці запоўнілі беларускую капліцу ў царкве Сан Сюльпіс. Беларускае сьвята ўшанавала сваёю прысутнасьцю амбасадар францускага ўраду для апекі над эмігрантамі і ўцекачамі Сп. Геру.

Папалудні ў вялікай салі Францускага Хрысьціянскага Сындыкату адбылася ўрачыстая Акадэмія з адпаведнаю для гэткае нагоды праграмаю. Кіраўнікі АБРФ і госьці ў сваіх выступленьнях слушна падчырквалі значэньне праробленае працы і выказвалі пажаданьні далейшых посьпехаў у арганізацыйным жыцьці. Пасьля Акадэміі адбылося гасьціннае прыняцьце.

### УГОДКІ СЛУЦКАГА ЧЫНУ

Ува ўсіх краінах расьсяленьня беларускае эміграцыі адбылося больш або менш урачыстае ўшанаваньне 35-ых угодкаў Слуцкага Паўстаньня. Гэтае традыцыйнае сьвяткаваньне сьведчыць, што вырывалась беларускага народу ў змаганьні за сваю незалежнасьць ня слабне.

### АРГАНІЗАЦЫЙНАЕ ЖЫЦЬЦЁ

Усе больш актыўныя беларускія нацыянальныя арганізацыі на эміграцыі мелі свае гадавыя зборкі з справаздачамі і перадвыбарамі ўправаў, але дзеля вялікага апазьненьня, з якім выходзіць гэты нумар часапісу, не ўспамінаем аб іх, як і аб іншых фактах, апублікаваных іншымі газэтамі і часапісамі.

---

### КНІГІ, ПРЫСЛАНЫЯ ДЛЯ ВОДЗЫВУ
**(Працяг з вокладкі 2-ое.)**

**Я. Юхнавец.** Шорах моўкнасьці. Вершы. Нью Ёрк 1955, стар. 48, f. 8°. Выданьне Уладзімера Пелясы.

**Мікола Куліковіч,** Беларускі песенны зборнік. Выпуск першы. Абрадавыя беларускія сьпевы і гульні: Калядныя, Веснавыя й Купальскія. Кліўлянд 1954, стар. 72, f. 8°. Выданьне Згуртаваньня Беларускае Моладзі ў Амэрыцы.

**Мікола Куліновіч,** Беларускі песенны зборнік. Выпуск пяты. Патрыятычныя беларускія сьпевы для хору. Кліўлянд 1955, стар. 71, f. 8°. Выданьне Згуртаваньня Беларускае Моладзі ў Амэрыцы.

**Валоціч Мікола,** Беларускае народнае ткацтва і яго зьнішчэньне бальшавікамі. Выданьне (ратататарнае) Інстытуту для Вывучэньня Гіст. і Культ. СССР. Мюхен 1955, стар. 199 + XIV.

**Святая Тереса** им. Младенца Иисуса, Повесть об одной душе, ею самою написанная. Издание «Соль Земли». Abbeville 1955, f. 12° стар. 343.

**V Конференция Института** по изучению истории и культуры СССР. Доклады и дискуссии. Мюнхен 1955, f. 8°, стар. 304.

**VI Конференция Института** по изучению СССР. Задачы и методы изучения СССР. Доклады и дискуссии. Мюнхен 1955, f. 8°, стар. 147.

**Проф. д-р Александр Архимович,** Селекция и семеноводство сахарной свеклы в СССР. Мюнхен 1954, f. 8°, стар. 175. Издание Инст. по изучению СССР.

**Б. Яковлев,** Концентрационные лагеры СССР. Мюнхен 1955, f. 8°, стар. 256. Издание Института по изучению СССР.

**Р. Трахо,** Северный Кавказ как здравница СССР. Мюнхен 1955, f. 8°, стар. 74. Издание Института по изучению СССР.

**Проф. А. Филипов,** Научный социализм и наука об обществе. Мюнхен 1955, f. 8°, стар. 160. Издание Института по изучению СССР.

**Часлаў Будзька,** Кніжка аб Івашку Гарнастаю. Том першы. 1955, f. 8°, стар. 423. Выданьне аўтара.

*Vladimir Seduro,* The Byelorussian Theater and Drama. Edited by Edgar H. Lehrman. Research Program of the USSR, New York 1955, star. 519, f. 8°.

*Sviataja Evanelija* i Apostalskija Dzei. Pierakłaŭ i padaŭ vyjaśnieńni ks. dr. Piotr Tatarynovic. Rym 1954, f. 8°, star, 636,

*Baron Michel de Taube,* L'Empereur Paul I. de Russie grand maître de l'Ordre de Malte et son «Grand prieuré Russe» de l'Ordre de Saint-Jean-de-Jerusalem. Paris 1955, f. 8°, star. 71.

---

# З беларускае народнае мудрасьці

Ажаніцца — ня ўпасьці; ня ўстанеш, не атрасешся.

Ані да рады, ані да звады. Нікудышні.

Апёкся малаком, дзьмухае на воду.

Арханёлы сьпяваюць, добрых дзетак зазываюць, у неба іх саджаюць, Бога там выхваляюць. Ня плач маці па дзіцяці, не наракай на Бога, трэба і анёлам памога. Суцяшэньне пасьля сьмерці дзіцяці.

Аснова кепска, але майстар добры, як патрэцца будзе добра. Дрэнная жонка, ці слуга пад добраю рукою мужа, ці гаспадара папрвіцца.

Атаўка сена прыбаўка, да ня ўмёў скасіць Саўка.

А трруцькі, бо пераскочу!... А кыш, бо ўпаду! Першае кажа дзяўчына перад замужжам, стрэнуўшы цяля, а другое — пасьля замужжа, стрэнуўшы курыцу. Насьмешка.

Ахвота горш няволі.

Баба многа знае, толькі мала праўды кажа.

Баба сьлязой, а мужык гарбом працуюць.

Баба хітрэй за чорта.

Бабе хоць з жыгала, дык ёй усё мала. Аб зайздрасьці.

Багатага за варотамі сустракаюць, а ад беднага дзьверы зачыняюць.

Багатаму красьці, а старому маніць не падабае.

Багаты грошы зьбірае, а чорт машну гатуе.

Багатыр ад багацьця гіне.

Багаты смачна есьць, да блага сьпіць.

Багацтва раздымае, а галота нагінае.

Баліць мая галава, што чужая старана.

Балмошная матка, балмошнае (разбэшчанае) і дзіцятка.

---

Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris.

Directeur: Abbé L. Horoseo.

# Абразкі з жыцьця

## НЯВЕДАМЫ СЬВЯТЫ.

Адзін місіянар з Родэзіі апавядае ў сваіх ўспамінах, што адзін з ягоных парахвіянаў нэграў моцна хацеў стацца сьвятаром, але дзеля сваё беднасьці ня меў магчымасьці атрымаць падрыхтоўчую асьвету. Вось-жа пайшоў на тры гады ў капальню медзі і там працаваў у вельмі цяжкім і нездаровым мейсцы, але добра зарабляў.

Па трох гадох меў грошы для аплаты навукі, але быў нявылячальна хворы. Аднак не наракаў на сваю долю і пастанавіў аддаць рэшту свайго жыцьця для прыдбаньня двух сьвятароў. Заробленыя грошы аддаў аднаму студэнту багаслову, а сам пайшоў зноў у капальню, каб зарабіць на ўтрыманьне яшчэ аднаго студэнта. Ахвярны нэгр сёньня ўжо ня жыве — памёр пасьля другога трохгодзьдзя ў капальні, але за ягоныя грошы ўжо адзін студэнт кончыў багасловію і высьвячаны на сьвятара, а другі студ'юе.

## СУМЛЕНЬНЕ ЗАГАВАРЫЛА.

Малодшы лейтэнант менскага НКВД Вячэслаў Ануфрыеў жарстока распраўляўся з беларусамі, растрэльваючы іх у Сьляпянскім лесе каля Менску. Потым сам трапіў у няласку свайго начальства. Вясною 1935 г. ён ужо быў у Марынскай турме ў Сібіры і там захварэў на сухоты. Аднойчы ён гаварыў Ул. Дудзіцкаму: «Моцна пакараў мяне Бог за сьляпянскія душы ... ляжыць там ня менш дзесяці тысячаў».

## ДЗЕЯНЬНЕ ПРЫКЛАДУ.

Лёрд Пэтэрборо быў ведамы як вялікі розум, але невялікі хрысьціянін. Аднойчы ён гасьцяваў у француского архібіскупа з Камбрэ Францішка Фэнэлёна (1651-1715), шырокаведамага з свайго красамоўства і пабожнага жыцьця.

Разьвітваючыся з Фэнэлёнам Пэтэрборо казаў:

— Калі-б я пабыў у вас даўжэй, дык-бы стаўся добрым хрысьціянінам хоць і наперакор самому сабе.

## СЬВЯТАСЬЦЬ ДЗЕЙНІЧАЕ І НА РАЗБОНІКАЎ.

Аднойчы сьв. Ян Канты (1390-1437) вяртаўся позна вечарам з прыгараднае вёскі ў Кракаў. Дарога йшла праз лес. Раптам з прыдарожных кустоў выскачыла некалькі разбойнікаў з крыкам:

— Давай ўсе грошы, якія маеш пры сабе, бо інакш сьмерць!

— Сьмерці я не баюся — спакойна адказаў сьвяты — бо я ў Божых руках, але каб вас стрымаць ад грэшнага ўчынку, аддаю вам ўсё, што маю з сабою. — Пры гэтых словах ён аддаў ім капшук з грашыма.

— Пабажыся, што больш ня маеш нічога! — дамагаўся яшчэ галоўны разбойнік.

— Госпад Бог мне сьведак, што аддаў вам усё, што меў, — адказаў сьвяты.

Разбойнікі пабеглі ў лес, а сьвяты Ян пасьпяшыў дамоў, дзякуючы Богу, што шчасьліва кончылася небясьпечная прыгода. Па хвіліне ён уладжыў руку ў кішэню і знайшоў там грош, які прыпадкам у яго астаўся. Стурбаваны, што мімаволі сказаў няпраўду, борзда павярнуўся туды, куды пабеглі разбойнікі і доўга шукаў іхняга кодла. Калі-ж знайшоў, зьвярнуўся да іх лагодным словам:

— Даруйце мне, што я мімаволі схлусіў. Вось астаўся ў меня яшчэ адзін грош, вазьмеце і яго.

Такая праўдамоўнасьць і праведнасьць да глыбіні душы ўзрушыла разбойнікаў, яны кінуліся на калені перад сьвятым, вярнулі яму забраныя грошы і прасілі, каб маліўся Богу за іхныя грэшныя душы.

## НАЙБОЛЬШЫ ДУРАНЬ.

У сярэднявечных часох быў звычай, што багатыя паны і магнаты мелі ў сябе блазнаў, заданьнем якіх было разьвесядяць паноў. Звычайна блазнамі былі людзі быццам прыдуркаватыя. Часта аднак пад прыкрыцьцём прыдуркаватасьці блазнамі былі людзі разумныя і вострыя на язык, яны выкарыстоўвалі сваё становішча, каб сказаць праўду ў вочы.

Адзін нягодны магнат, пачуўшы ад свайго блазна некалькі няпрыемных дакораў, даў яму сукаваты кол, кажучы пры тым:

— Мусіш заўсёды насіць з сабою гэты кол, пакуль ня знойдзеш дурнейшгаа за сябе. Як знойдзеш такога, дык яму перадасі.

Некалькі гадоў пасьля гэтага здарэньня магнат цяжка захварэў і паклікаў да сябе блазна ды кажа:

— Хутка я цябе пакіну.

— Куды-ж ты пойдзеш? — пытае блазан.

— На той сьвет.

— А калі адтуль вернешся, за месяц?

— Не!

— За год?

— Не вярнуся ніколі!

— Ніколі!? А як-жа ты падрыхтаваўся, каб быць шчасьлівым на тым сьвеце?

— Зусім не падрыхтаваўся.

— Калі так — кажа блазан — дык бяры ад мяне гэты сукаваты кол, бо я яшчэ ня сутракаў такога вялікага дурня як ты.

## ЗЬМЕСТ